• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

17 лютага 1996 г. субота, №№ 46-47 (22849-22850)





# ЗВЯЗДА

# РОЗГАЛАС

## ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕР РАСІІ СУСТРЭЎСЯ З КІРАЎНІЦТВАМ БЕЛАРУСІ



У рамках дзейнасці сумеснай беларуска-расійскай камісіі, якая пачала сваю работу ў Мінску, 16 лютага Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з віцэ-прэм'ерам Расійскай Федэрацыі Аляксеем Бальшаковым. Сустрэча адбылася ў рэзідэнцыі кіраўніка беларускай дзяржавы.

У гэты ж дзень А.Бальшакоў сустрэўся з кіраўніком Кабінета Міністраў Беларусі Міхаілам Чыгіром.

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 75

**АБ ВЫЗВАЛЕННІ В.В.КЕЗА АД ПАСАДЫ ПЕРШАГА НАМЕСНІКА ДЗЯРЖАЎНАГА САКРАТАРА САВЕТА БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ЗАЛІЧЭННІ ЯГО Ў РАСПАРАДЖЭННЕ СТАРШЫНІ КАМІТЭТА ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Вызваліць Кеза Валерыя Віктаравіча ад пасады першага намесніка дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь і залічыць яго ў распараджэнне старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь для наступнага звальнення з ваеннай службы ў запас па выслузе гадоў, які дае права на пенсіённае забеспячэнне.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*15 лютага 1996 г., г.Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 80

**АБ ВЫЗВАЛЕННІ ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ АД ВЫПЛАТЫ ПЕНІ**

У мэтах нармалізацыі разлікаў і забеспячэння паступленняў плацяжоў у бюджэт **пастанаўляю**:

1. Юрыдычным асобам, якія допусцілі нядоімку па падатках і непадатковых плацяжах, выплачваемых у бюджэт, якая ўтварылася па прычыне адсутнасці грашовых сродкаў на іх разліковых і іншых рахунках і лічыцца на 1 кастрычніка 1995 г., а таксама якая ўтварылася за перыяд з 1 кастрычніка па 31 снежня 1995 г., адтэрмінаваць выплату пені, налічаную на гэту нядоімку, да 1 ліпеня 1996 г.

2. Не спаганяць з юрыдычных асоб пеню па сумах нядоімкі падаткаў і непадатковых плацяжоў, выплачваемых у бюджэт, якая ўтварылася па прычыне адсутнасці грашовых сродкаў на іх разліковых і іншых рахунках і лічыцца на 1 кастрычніка 1995 г., а таксама якая ўтварылася за перыяд з 1 кастрычніка да 31 снежня 1995 г., пры ўмове іх выплаты ў бюджэт да 31 сакавіка 1996 г.

Спагнаныя сумы пені з юрыдычных асоб, вызваленых ад спагнання пені, залічваюцца ў лік належных да выплаты ў бюджэт сум адлаедных падаткаў.

3. Не вызваляюцца ад выплаты пені і не даецца адтэрміноўка па яе выплаце:

юрыдычным асобам, якія парушылі тэрміны прадастаўлення ва ўстановы банкаў плацежных дакументаў на выплату ў бюджэт падаткаў і іншых плацяжоў;

юрыдычным асобам, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць і не з'яўляюцца вытворчымі прадпрыемствамі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*16 лютага 1996 г., г.Мінск.*

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 41РП

**АБ АКАЗАННІ ФІНАНСАВАЙ ДАПАМОГІ МІНСКАМУ ТРАКТАРНАМУ ЗАВОДУ І МІНСКАМУ АЎТАМАБІЛЬНАМУ ЗАВОДУ**

Выдзеліць з рэзервовага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Мінскаму трактарнаму заводу і Мінскаму аўтамабільнаму заводу для папаўнення абаротных сродкаў гэтых прадпрыемстваў пазыкі па 20 млрд. рублёў кожнаму з вяртаннем да 25 снежня 1996 г. і выплатай за карыстанне гэтымі пазыкамі працэнтаў на ўзроўні дыскантнай стаўкі Нацыянальнага банка.

Мінфіну заключыць з Мінскім трактарным заводам і Мінскім аўтамабільным заводам дагаворы аб умовах выдачы і вяртання ўказаных пазык.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*16 лютага 1996 г., г.Мінск.*



Завеі, люты... Але масленіца на дварэ, а, значыць, вясна на парозе.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

## РЭЙТЫНГ. АКЦЭНТЫ. ВЕРСІІ

## ТАМАРА ВІННІКАВА НАЗНАЧАНА СТАРШЫНЁЙ НАЦБАНКА

**Меркаванне аб тым, што рэальнай прэтэндэнткай на пасаду кіраўніка Нацыянальнага банка стане старшыня праўлення ААБ «Беларусбанка» Тамара Віннікава, пацвердзілася. Прэзідэнт Беларусі сваім указам ад 15 лютага назначыў менавіта гэтага банкіра на месца экс-старшыні Нацбанка Станіслава Багданкевіча.**

Між іншым, па прызнанні многіх банкіраў, з якімі ў апошні час звязваліся карэспандэнты нашай газеты, менавіта гэтым назначэннем і павінен быў скончыцца час нятэпнасці ў фінансавай сістэме краіны пасля адстаўкі былога старшыні. Несумненна, з прыходам новага чалавека банкаўскую сістэму, мабыць, чакае рэфарміраванне. У адным са сваіх інтэрв'ю Тамара Віннікава выказала ідэю аб неабходнасці стварэння ядра нацыянальнай банкаўскай сістэмы, у якое ўвойдуць буйныя банкі (з першай шасцёркі—дзесяткі, — мяркуючы па ўсім, маецца на ўвазе групоўка банкаў па памеру фактычнага статутнага фонду). Аднак, з другога боку, што будзе далей, — пакажа час. Пакуль Тамара Дзмітрыеўна яшчэ не паспела выказаць сваю, ужо афіцыйную, пазіцыю па пытаннях далейшага функцыянавання банкаўскай сістэмы.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## БЕЛАРУСКІ ТРАКТАР СУПРАЦЬ «ФОРДА»: ХТО КАГО?

**Канфлікт паміж МТЗ і «Фордам» набывае ўсё больш шырокую агалоску. Па плану ўжо 1 красавіка ў Абчаку павінны былі пачацца работы па будаўніцтву сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства. У адваротным выпадку праз год беларускаму «Форду» з канвеера не сысці.**

Існуюць два пункты погляду.

Першы. «Антыфордаўскія» звароты калектыву МТЗ, пагрозы страйкаў звозяцца да жадання пэўных структур паўплываць на рынак іншамарак, таму што беларуская аўтамабілі амерыканскага паходжання могуць нанесці ўдар па аўтабізнесу.

Другі. Закрыццё пляцоўкі для выпрабаванняў наносіць удар і па МТЗ — фактычна адзінаму прадпрыемству, якое праце больш-менш стабільна ў галіне трактарабудавання на тэрыторыі ўсёй СНД. Беларусь можа страціць яшчэ адну крыніцу папаўнення бюджэту.

## ПАЧЫНАЕЦЦА...

**Памочнік Прэзідэнта Беларусі Сяргей Посахаў, пагутарыўшы з карэспандэнтам «Інтэрфакса», як быццам палажыў пачатак будучай прэзідэнцкай кампаніі.**

Не будзем спрачацца, аналізаваць, наколькі правільна расставіў Сяргей Аляксеевіч акцэнты, акрэсліў кола прэтэндэнтаў на пасаду Прэзідэнта. Лідэра вызначыць час. На ўсенародны выбар паўплывае характар паводзін кожнага з мяркуемых кандыдатаў на прэзідэнцкую пасаду. Назіральнікі адзначаюць, што хоць да прэзідэнцкіх выбараў яшчэ далёка, але «адстрэл» магчымых кандыдатаў ужо пачаўся. Можа, ранавата?

## РЭХА ПАДЗЕЙ

## ВАЛЕРЫЙ ЦІХІНЯ ЎПЭЎНЕНЫ Ў ПАДТРЫМЦЫ ПАРЛАМЕНТА

**На мінулым тыдні Канстытуцыйны суд даў ацэнку таму, як у краіне выконваецца Асноўны закон. Ацэнка гэта, на жаль, нездавальняючая.**

Пасланне КС аб стане канстытуцыйнай законнасці — выніковы, падагульняючы дакумент. Старшыня суда Валерый Ціхіня, каменціруючы яго, сказаў, што суддзі не імкнуліся драматызаваць сітуацыю, але не маглі і займацца лакіроўкай рэчаіснасці.

Канстытуцыйны суд па зразумелых прычынах апынуўся паміж двух агнёў — на лініі падзелу, размежавання дзвюх галін улады. І такі ўжо лёс міратворчых сіл — падвяргацца абвінавачванням то з аднаго, то з другога боку ў зацікаўленасці, неаб'ектыўнасці.

Спакойная і размераная праца Канстытуцыйнага суда ў бліжэйшай перспектыве наўрад ці будзе. У сітуацыі, калі адна з галін улады нездаволена аб'ёмам сваіх паўнамоцтваў і хацела б іх пашырыць, суду немінуча давядзецца быць удзельнікам гучных падзей.

Ужо сёння зразумела, што ліквідаваць ці рэфарміраваць КС як орган канстытуцыйнага нагляду для выканаўчай улады будзе справай нялёгкай. Валерый Ціхіня дае рэзкую ацэнку такой ініцыятыве, называючы яе маразмам. На яго думку, недапушчальна ставіць так пытанне ў краіне, якая імкнецца ў Савет Еўропы і паставіла за мэту стварэнне прававой дзяржавы.

Між тым, ініцыятыва гэта — увесь час навідавоку. І новы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Абрамовіч у сваіх першых інтэрв'ю на новай пасадзе ацэньвае яе даволі прыхільна, хоць і агаворваецца, што канстытуцыйны кантроль у нейкім выглядзе дзяржаве патрэбен. Валерый Ціхіня пра такую пазіцыю свайго калегі выказваецца вобразна і востра: «Аляксандр Міхайлавіч спрабуе з аднаго яйка атрымаць і яечню, і куранят».

Старшыня КС адназначна негатыўна ставіцца да ідэі рэферэндуму аб зменах Канстытуцыі. Такі складаны дакумент, у якім нават спецыялісту цяжка разабрацца, выносіць на суд грамадства і патрабаваць ад радавога грамадзяніна адказаць адным словам — «так» ці «не», на яго думку, заганны шлях, злоўжыванне самой ідэяй рэферэндуму.

Валерый Ціхіня перакананы ў тым, што яго пазіцыя знойдзе падтрымку сярод большасці дэпутацкага корпуса. Не так даўно, у пераднавагоднія дні, старшыня КС ужо меў магчымасць пераканацца ў тым, што без бою новыя парламентарыі суд не здадуць.

Многія дэпутаты таксама выказваюць зацікаўленасць у тым, каб па выніках паслання наладзіць парламенцкія слуханні. Гэтую ж прапанову падтрымліваюць і суддзі.

Дарэчы, пасланне КС прынята аднагалосна, што было даволі нечакана, паколькі ў крытычных сітуацыях суд, як правіла, не абыходзіўся без асаблівага меркавання аднаго з суддзяў.

У Канстытуцыйнага суда сёння няпроста, крытычны перыяд. Патрэбны вытрымка і мужнасць, каб адстойваць свае прынцыпы ў такой складанай сітуацыі.

Спікер Сямён Шарэцкі некалькі тыдняў таму папрасіў суд прыпыніць разгляд усіх спраў, якія ў свой час былі пачаты па ініцыятыве тагачаснага Старшыні ВС Мечаслава Грыба. Суддзі, аднак, накіравалі сп. Шарэцкаму ліст у адказ, у якім папрасілі выкласці матывы гэтай просьбы.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## ПРАМАЯ ЛІНІЯ

21 лютага ў «прамой лініі» на пытанні чытачоў газеты «Звязда» адкажа віцэ-прэм'ер Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь **Уладзімір Гіляравіч ГАРКУН**. Размова пойдзе аб праблемах аграпрамысловага комплексу, аб сённяшніх клопатах і турботах вяскоўцаў. Мы чакаем вашых званкоў 21 лютага з 14-й гадзіне па тэлефонах: **68-29-21, 32-38-21.** Папярэдне пытанні задавайце па тэлефоне **68-28-72,** а таксама дасылайце па пошце.

*ВЕРСІІ*

## ТРОЕ ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ ПАПРАСІЛІ ПАЛІТЫЧНАГА ПРЫСТАНІШЧА Ў ІРЛАНДЫІ?

**Як паведамілі некаторыя расійскія сродкі масавай інфармацыі са ссылкай на Інтэрфакс, 12 пасажыраў самалёта, які ў чацвер выконваў рэйс з Масквы на Кубу, падчас прыпынку ў Ірландыі папрасілі ў мясцовых уладаў палітычнага прыстанішча. Сярод іх 5 іракцаў, 4 — грамадзяне Латвіі і 3 — Беларусі.**

Прадстаўнік МЗС Расіі выказаў сумненне наконт таго, што ім будзе прадастаўлена прыстанішча ў Ірландыі. «Невяртальнікам» прыйдзецца даказаць, што па прыбыцці на радзіму ім пагражае небяспека ў сувязі з нелегальнай палітычнай дзейнасцю высакароднага кшталту» — зазначыў ён. На думку прадстаўніка МЗС, хутчэй за ўсё, гэтыя людзі засталіся ў Ірландыі па чыста эканамічных меркаваннях. У такім разе ім наўрад ці ўдасца дабіцца прыхільнасці ірландскіх уладаў.

Карэспандэнт «Звязды» паспрабаваў атрымаць дадатковую інфармацыю ў прэс-службах Міністэрства замежных спраў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі. Аднак ні ў знешнепалітычным ведамстве, ні ў КДБ інфармацыяй па вышэйпрыведзенаму інцыдэнту, па іх словах, пакуль не валодаюць.

**Сяргей ПРОТАС.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ*

## ...ПАТЭЛЕФАНАВАЦЬ

**Каб даведацца, колькі будзе каштаваць мне размова з сябрам, які жыве ў іншым горадзе, я накіравалася на мінскі паштамт.**

Як высветлілася, званок у межах Беларусі абыдзецца ў 600 рублёў за адну хвіліну размовы (выключэнне — Мінская вобласць — 300 рублёў). Пашанцавала тым, у каго сябры і сваякі жывуць непадалёку, а вось адна хвіліна размовы з еўрапейскай часткай Расіі абыйдзецца 4500 рублёў, азіяцкай — у 6000 рублёў, з Украінай і Малдовай — ў 3000 і 3200 рублёў адпаведна, з Азербайджанам — у 4600 руб., Арменіяй і Грузіяй — у 3600.

Цікава, што нават у Казахстан (3900 руб., і Узбекістан -4200 руб.) званіць танней, чым суседзям-расіянам. І ўжо зусім туга прыйдзецца жадаючаму пагутарыць з краінамі Балтыі, бо за адну хвіліну трэба заплаціць 8000 рублёў.

Магчыма, каму-небудзь прыглянуцца таксафоны для міжнародных званкоў фірмы «URMET», якія пачалі паяўляцца ў апошні час у розных кропках сталіцы. Дзейнічаюць яны на магнітных картках. З іх можна без праблем звязацца з любым кантынентам: з Амерыкай, Азіяй, Афрыкай і Аўстраліяй, але за адну хвіліну размовы прыйдзецца заплаціць 30.000 руб. Яшчэ танней, а галоўнае — больш даступна, пісаць адзін аднаму пісьмы. Пісьмо да 20 г у межах рэспублікі каштуе 200 руб., у краіны СНД — 600 руб., у далёкае замежжа і Прыбалтыку — 1200 руб.

Нядрэнна папрактыкавацца пры складанні тэлеграм і ў лаканічнасці. Адно слова ў межах нашай краіны абыходзіцца ў 50 рублёў, а вось у краіны СНД — у 1000 руб. Тэрміновыя тэлеграмы аплачваюцца ў 2 разы даражэй.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# СЁМАЕ ПАСЯДЖЭННЕ МІЖПАРЛАМЕНЦКАЙ АСАМБЛЕІ СНД

**Каля 30 пытанняў трэба будзе разгледзець удзельнікам сёмага пасяджэння Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц СНД, якое сёння адкрылася ў Санкт-Пецярбургу. Афіцыйную беларускую дэлегацыю на гэтым форуме ўзначальвае Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі.**

Напярэдадні Савет Міжпарламенцкай асамблеі рэкамендаваў уключыць у парадак дня пытанні аб мадэльных Грамадзянскім, Крымінальным і Крымінальна-працэсуальным кодэксах дзяржаў—удзельніц СНД; аб рэкамендацыйных заканадаўчых актах: «Асновы процідзеяння незаконнаму абароту наркатычных сродкаў і моцнадзеючых рэчываў на тэрыторыях дзяржаў СНД», «Аб фінінсава-прамысловых групах», «Аб сродках масавай інфармацыі» і іншыя.

Савет МПА прыняў таксама шэраг пастаноў. Парламентам дзяржаў — удзельніц СНД было, у прыватнасці, рэкамендавана: «разгледзець пытанне аб ратыфікацыі пагадненняў па сацыяльнай абароне грамадзян Садружнасці Незалежнасці Дзяржаў», «паскорыць працэс далучэння да Канвенцыі аб трансгранічным забруджванні паветра на вялікія адлегласці». Вырашана таксама правесці ў маі 1996 года міжнародную канферэнцыю «Перспектыўныя напрамкі заканадаўчай дзейнасці ў сферы экалогіі», а ў чэрвені «Першы фестываль самадзейнай мастацкай творчасці народаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў».

Заканадаўцы Беларусі прынялі самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы пасяджэння Міжпарламенцкай асамблеі. Дэлегацыя беларускага парламента прыбыла ў Санкт-Пецярбург загадзя, яе члены ўдзельнічалі ў распрацоўцы праектаў пастаноў МПА, у рабоце яе пастаянных органаў, у прыватнасці, у камісіях па прававых пытаннях, па эканоміцы і фінансах, па сацыяльнай палітыцы і правах чалавека, па пытаннях абароны і бяспекі, па знешнеэканамічных пытаннях, па праблемах навакольнага асяроддзя, у кантрольна-бюджэтнай камісіі.

На пасяджэнні Міжпарламенцкай асамблеі выступіў і ўнёс шэраг прапаноў па ўзгадненню палітыкі дзяржаў — удзельніц СНД у сферы эканомікі, экалогіі, збліжэнні нацыянальных заканадаўстваў і забеспячэнні роўных правоў і гарантый грамадзянам незалежных дзяржаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі. Прадстаўнікі беларускай дэлегацыі актыўна ўдзельнічалі ў рабоце пастаянных камісій Міжпарламенцкай асамблеі, падрыхтоўцы яе падагульняючых дакументаў.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета — БЕЛТА.**

# ПЫТАННЯМ ПАДАТКААБКЛАДАННЯ — ПРЫЯРЫТЭТ

**На ранішнім пленарным пасяджэнні парламента 16 лютага кворум забяспечылі 168 народных выбраннікаў. Аб выніках праведзеных сацыялагічных даследаванняў у «Розным» праінфармаваў старшыня пастаяннай Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, СМІ, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі Ігар Катляроў.**

Згодна з даследаваннямі, цяпер самы высокі рэйтынг у Прэзідэнта, а ў Вярхоўнага Савета ён стаў вышэйшы, чым у Кабінета Міністраў. Што датычыць партый, то лідзіруе з вялікім адрывам Партыя камуністаў беларуская, за ёй ідуць аграрыі, БНФ, жаночая партыя «Надзея».

У «Розным» прагучала таксама ў адрас Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры прапанова падтрымаць ідэю перапахавання праху Максіма Багдановіча на яго радзіме ў Мінску.

Затым дэпутатам было прапанавана пачаць разгляд праекта закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць». Аднак некаторыя дэпутаты запярэчылі. У прыватнасці, было прапанавана вярнуцца да пытання аб парадку дня сесіі і зацвердзіць яго, а таксама прарэагаваць на інцыдэнт, які здарыўся са старшынёй Камісіі па міжнародных справах Пятром Краўчанкам. У выніку галасавання прыярытэт быў аддадзены рабоце над праектам заканадаўства па падаткаабкладанню.

Пасля перапынку заканатворчая дзейнасць дэпутатаў стала больш эфектыўнай. Парламент пагадзіўся з прапановай урада вызваліць ад падатку на дабаўленую вартасць тавары, увозімыя на нашу тэрыторыю з дзяржаў Садружнасці. У выніку ліквідавана двайное падаткаабкладанне: ПДВ будуць плаціць у бюджэт сваёй рэспублікі толькі пастаўшчыкі. Вытворцы тавараў з іншых дзяржаў павінны будуць адлічаць падатак на дабаўленую вартасць у памеры 20 працэнтаў. Пры гэтым ён змяншаецца ў два разы для замежных імпарцёраў, якія пастаўляюць прадукты харчавання і некаторыя тавары для дзяцей. У той жа час сесія не падтрымала ініцыятыву Кабінета Міністраў аб адмене льгот на ПДВ пры правядзенні бартэрных аперацый, звязаных, напрыклад, з набыццём камплектуючых вырабаў. Асаблівую палеміку выклікала папраўка ўрада аб адмене ПДВ на вострадэфіцытныя тавары, якія паступаюць у нашу рэспубліку. Аднак дэпутаты выказалі заклапочанасць, як бы гэта фармулёўка не стала чарговым пралазам для карумпіраваных элементаў, якія захочуць манапалізаваць наш рынак. Прынята рашэнне вярнуцца да абмеркавання пункта пасля яго дапрацоўкі.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА,**
**Ларыса ЛАЗАР,**
**БЕЛТА.**

*ТЭНДЭНЦЫІ*

# БАЛЮЧАЕ РАЗВІТАННЕ З УТОПІЯЙ

**У нашых людзей вялікі запас цярпення і вытрымкі. Карціны сацыяльнага бедства — адна страшней за другую — сталі будзённай рэчаіснасцю, звыклым аб'ектам увагі газет і тэлебачання.**

Крытычная, часам — экстрэмальная сітуацыя, у якой апынуліся сотні і сотні тысяч нашых суграмадзян, пры мностве негатыўных бакоў мае адзін станоўчы. Людзі марудна, балюча, пакутліва, на ўласным горкім вопыце развітваюцца з ілюзіямі і пераконваюцца ў тым, што ўласны лёс, дабрабыт давядзецца будаваць уласнымі рукамі і розумам. Адначасова з гэтым для шырокіх народных мас становіцца зразумелай сапраўдная цана прыгожых лозунгаў, шчодрых абяцанняў і шырокіх папулісцкіх жэстаў.

Зразумела, цана спасціжэння гэтай ісціны магла б быць значна меншай, калі б мы не вынаходзілі ўласны шлях, а паслухмяна вучыліся на памылках суседзяў. Але палон ілюзій для нашага грамадства, як ні для якога іншага, аказаўся на дзіва доўгім. Магчыма таму, што савецкае мінулае для Беларусі, у адрозненне ад іншых рэгіёнаў колішняга СССР, у лепшыя застойныя гады не было азмрочана «каўбаснымі» чэргамі і вылучалася параўнальным таварным дастаткам. Цяпер, з вышыні часу, многае ідэалізуецца, асабліва старэйшым пакаленнем. Гавораць пра таннасць прадуктаў — і забываюць пра тое, як прыніжаліся перад усёмагутнымі гандлярамі, каб «дастаць» кавалак добрага мяса ці вэнджанай каўбасы. Любяць успомніць пра бясплатныя кватэры — але не згадваюць, колькі часу часцей за ўсё даводзілася чакаць гэтага дармавога жылля радавому рабочаму і яго сям'і. Ахвотна падлічаць, колькі вопраткі, абутку, мэблі мог набыць за свае 120 рублёў звычайны савецкі грамадзянін — але забываюць, колькі гадзін ён павінен быў выстаяць у чарзе, каб дастаяцца да прыстойных чаравікаў ці касцюма.

Цяжка асуджаць за гэтую забыўлівасць, асабліва старых — тых, у каго ў савецкім мінулым засталася лепшая частка жыцця. Для іх тыя гады заўсёды будуць успрымацца як лепшыя ўжо хоць бы таму, што гэта былі гады маладосці.

Аднак гэта настальгія старэйшага пакалення вельмі канкрэтна адбіваецца на выбраным краінай палітычным і эканамічным курсе.

Расчараванне ў рэформах, масавае «палявенне» поглядаў — тыповая з'ява для большасці постсацыялістычных краін. Спецыфіка беларускай сітуацыі ў тым, што рэфарматары тут да ўлады не прыходзілі. І, уласна кажучы, насельніцтва расчароўваецца не столькі ў пераўтварэннях, колькі ў выніках таго, што яны, гэтыя пераўтварэнні, адсутнічалі.

І старыя, і новыя ўлады на працягу апошніх пяці гадоў упарта палохалі людзей «шокавай тэрапіяй», абяцалі паступовасць, стабільнасць, узважанасць. У выніку шок для беларусаў расцягнуўся на гады. І назіраючы, як суседнія краіны пажынаюць першыя плады рэформаў, як яны набіраюць тэмпы і аб'ёмы вытворчасці, як расце там дабрабыт людзей, мы міжволі павінны рабіць высновы.

Масавая свядомасць марудна паддаецца зменам. Палітыкі павінны ўлічваць гэта, калі разлічваюць на поспех у вачах мас. Сёння ў пашане не тыя, хто гаворыць народу суровую жорсткую праўду, — іх эпоха скончылася ў канцы 80 — пачатку 90-х гадоў. Народ жадае бачыць пры ўладзе тых, ад каго чуе тое, што хоча пачуць. Але нават у Беларусі настае момант, калі рэсурс старой, мілай сэрцу большасці насельніцтва сістэмы аказваецца канчаткова вычарпаным. Да такога становішча мы якраз наблізіліся.

Можна паспачуваць беларускім камуністам. У той час як іх аднадумцы (ці, прынамсі, сваякі па мацярынскай КПССаўскай лініі) у іншых краінах прыходзяць да ўлады на фоне хоць нязначнага, але ўсё ж пад'ёму ў эканоміцы, калі крытычны пункт рэформаў там пераадолены, — наша ПКБ заняла разам з блізкай ёй па духу Аграрнай партыяй пануючае становішча ў парламенце ў момант, калі рашаючую рысу яшчэ толькі належыць пераадолець.

Парадокс: камуністам і аграрыям пад ціскам абставінаў немінуча давядзецца рабіць стаўку на прыватызацыю, на прыватную ініцыятыву людзей. (Іншы шлях тупіковы — утрымліваць дзяржаўныя прамысловыя гіганты і калгасы-банкруты проста няма за што, яны самі развальваюцца на вачах.) І які б шлях ні выбралі нашы левыя — у бліжэйшай перспектыве ў палітычным плане ён пройгрышны для гэтых сіл. Людзі не даруюць таго, што ім не вярнулі іх светлае мінулае.

Зрэшты, у бліжэйшай будучыні лёс Беларусі ў чарговы раз будзе вырашацца не ў Мінску, а на ўсходзе ад беларускіх межаў. Чэрвеньскія прэзідэнцкія выбары ў Расіі для нашай краіны будуць мець амаль такое ж значэнне, як і для расіян. Пазаўчора, 14 лютага, там адбылося вылучэнне асноўных прэтэндэнтаў на гэту пасаду — Барыса Ельцына і Генадзя Зюганава. Цікава, як на рашаючым этапе прэзідэнцкай гонкі ў Расіі будзе паводзіць сябе беларускае кіраўніцтва. Візіт Прэзідэнта Лукашэнкі ў Маскву, які плануецца на канец лютага, многае тут праясніць. Адназначная падтрымка Ельцына пры рызыкоўнасці і непрадказальнасці барацьбы, якая разгарнулася за крамлёўскі прастол, у перспектыве можа дорага каштаваць.

Што датычыць пазіцый самога Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі, то яны пакуль што непахісныя. Паводле звестак сацыялагічнай лабараторыі Андрэя Вардамацкага «Новак», у студзені за цяперашняга прэзідэнта гатовы былі аддаць галасы 35,8 працэнта апытаных. Гэта, праўда, на тры працэнты менш, чым у снежні мінулага года. Але паказчык гэты па-ранейшаму пакуль недасягальны для бліжэйшых яго сапернікаў.

**Валянцін ЖДАНКА.**

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

**• АБСТРЭЛ ВЁЎСЯ З МІНАМЁТАЎ**

За мінулыя суткі падраздзяленні федэральных войскаў у Чачні абстрэльваліся 25 разоў, у тым ліку 10 разоў — у Грозным. Недалёка ад пасёлка Новагрозненскі, Гудэрмескага раёна, апалчэнцамі апазіцыі тройчы абстрэльвалася падраздзяленне ўнутраных войскаў. Выкарыстоўвалася стралковая зброя і мінамёты. Сярод расійскіх вайскоўцаў ёсць забітыя і параненыя.

**• УКРАІНА СПАДЗЯЕЦЦА НА АСТАТНЮЮ ЧАСТКУ ПАЗЫКІ**

Намеснік прэм'ер-міністра Украіны Раман Шпэк выказаў спадзяванне, што Міжнародны валютны фонд выдзеліць у пачатку красавіка астатнюю частку пазыкі, прадастаўленне якой Украіне было спынена. Украіна недаатрымала 700 мільёнаў долараў з пазыкі ў 1,5 мільярда, якая была выдаткавана для эканамічнай стабілізацыі і структурных рэформаў. Эксперт МВФ лічыць, што праграма рэформаў выконваецца на Украіне нездавальняюча. Шпэк лічыць, што пасля перамоў, якія адбыліся ў Кіеве і Вашынгтоне, МВФ выдзеліць апошнюю частку пазыкі.

**• ВЫБАРЫ ПАД ПАГРОЗАЙ**

Усеагульныя выбары ў Босніі могуць быць сарваны, калі кіраўніцтва баснійскіх сербаў, як і раней, не будзе аднаўляць кантакты з кіраўніцтвам сіл НАТО па падтрыманню міру. Падрыхтоўчыя работы павінны быць завершаны да канца лютага.

**• ПАЖАР АХАПІЎ ПРЭЗІДЭНЦКІ ПАЛАЦ**

У сталіцы Афганістана Кабуле адбылося некалькі выбухаў на складзе з боепрыпасамі. Загінула не менш за 60 чалавек, многія атрымалі раненні. Прадстаўнік урада паведаміў, што выбухі сталі вынікам выпадковага пажару ў прэзідэнцкім палацы, дзе размешчана міністэрства абароны.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

*ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Заходнегерманскі заолаг прафесар Гельмут Хамер сцвярджае, што характар кошак залежыць ад іх колеру.

Так, чорныя кошкі вельмі нервовыя, цікаўныя і любяць лашчыцца. Чорна-белыя — чулівы, лёгка прывязваюцца да гаспадароў, асабліва да дзяцей. Паласатыя кошкі, наадварот, замкнутыя, пазбягаюць кантактаў з людзьмі. Рыжыя і бела-рыжыя, як правіла, флегматычныя, любяць спакой, дамаседкі. Белыя кошкі капрызныя, крыўдлівыя.

**«Космас».**

*Самай моднай сучаснай прычосцы, якую, у прыватнасці, носіць вядомая ў Лацінскай Амерыцы актрыса Вераніка Кастра, 2.400 гадоў.*

*Да такой высновы прыйшлі перуанскія археолагі, даследаваўшы некалькі індзейскіх мумій, якія захоўваліся ў музеі Іка. Аказалася, што лініі і тыпы ўкладкі валасоў, якія прымяняліся індзейцамі тысячагоддзі назад, практычна ў дакладнасці паўтараюць сучасныя цырульнікі.*

**«Труд».**

**СЁННЯ**

**МЕСЯЦ**

**Маладзік 19 лютага.**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Георгія, Мікалая**

**К. Аляксея, Збігнева**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаюцца складаныя ўмовы надвор'я: снег, мяцеліца, на дарогах снежныя заносы, месцамі снег моцны, парывісты вецер. Тэмпература паветра ў Гродне і Брэсце — 0—2, Мінску — 2—4, Гомелі, Магілёве і Віцебску — 3—5 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак часам пройдзе снег, месцамі мяцеліца. Тэмпература 18-га на працягу сутак — 6—11, 19-га ўначы — 9—14, месцамі да 19, удзень — 4—9 градусаў ніжэй нуля.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 17 ЛЮТАГА

Надвор'е будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску. Павышэнне тэмпературы, далейшае паніжэнне ціску прывядуць да фарміравання гіпаксічнага тыпу надвор'я. Метэазалежныя хворыя з сардэчна-сасудзістай паталогіяй і захворваннямі дыхальнай сістэмы па-ранейшаму могуць адчуваць слабасць, хуткую стамляльнасць, раздражняльнасць.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, праветрываць памяшканні, рэгулярна прымаць прэпараты, прызначаныя ўрачом, полівітаміны, якія ўтрымліваюць вітамін «Е».

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# ПРА ПАЛІТЫКАЎ БЕЗ ПАЛІТЫКІ

## ПАМОЧНІК ПРЭЗІДЭНТА

**Калі доктар гістарычных навук, прафесар Алег СЛУКА змяніў адказную пасаду дэкана факультэта журналістыкі БДУ на яшчэ больш адказную ў Адміністрацыі Прэзідэнта, гэты факт не абыйшлі ўвагай журналісты. Асабліва з'едліва прайшліся наконт гэтага прызначэння недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі — «Белоруссия» і «Народная воля», «Феміда», «Имя», іншыя. Дзякуючы «газетнаму азарту», Алег Слука набыў яшчэ большую папулярнасць: як вядома, у наш час антырэклама — найлепшая рэклама. Прынамсі, «антырэкламы» ў строгім сэнсе слова не было — іронія калег ішла хутчэй ад скепсісу («навошта гэта спатрэбілася вучонаму мужу?») ды неўразумення, хаця часам даходзіла да сарказму.**

**Прайшло амаль паўгода, як Алег Георгіевіч стаў памочнікам Прэзідэнта. Як працуецца на гэтай высокай адказнай пасадзе? Што ўжо ўдалося зрабіць, а што — яшчэ наперадзе?..**

**Нашу гутарку вырашыла распачаць з факта, які часта абмяркоўваецца на кухнях і ў «кулуарах»...**



**У КІЁСКАХ «Саюздруку» з'явіліся партрэты Прэзідэнта коштам ад 5 да 25 тыс. руб., а ў пераходах метро «з рук» прадаюць калядную жартаўлівую паштоўку «Чаепитие» па 3-4 тыс. руб., і яе актыўна набываюць...**

— Тут спрацоўвае грамадская, нават бытавая псіхалогія людзей. Яны хочуць як мага больш ведаць пра Прэзідэнта — з усіх бакоў. Пра Аляксандра Рыгоравіча як палітыка, здавалася б, шматграннай інфармацыі дастаткова: і дзяржаўныя органы інфармацыі, і недзяржаўныя асэнсоўваюць палітычную дзейнасць Прэзідэнта. А вось каб на фальклорным, народным узроўні — такога яшчэ не было...

**— Дык узгаданая паштоўка — гэта добра ці дрэнна?**

— Лічу, што гэта з'ява.

**— Садзіць не будуць, калі яе ўбачаць у каго-небудзь на стале ці на паліцы?**

— Садзіць не будуць!.. (Смяецца.) Скажу канкрэтна: усё гэта — накапленне народам інфармацыі аб Прэзідэнце і нават аб тых, хто цяпер трымае ўладу. Так было заўсёды. Гэта ідзе не столькі ад злосці, не толькі ад голага крытыцызму, а, відаць, ад выдумкі народнай.

**— Алег Георгіевіч, наступнае пытанне таксама будзе ў «фальклорным рэчышчы» — раскажыце, калі ласка, свой любімы анекдот пра Прэзідэнта.**

— Пра Прэзідэнта я не слухаю анекдоты і не расказваю... У семантыцы самога слова «анекдот» закладзена частковая знявага.

*Анекдот (ад грэч. «нявыдадзены») — кароткае, звычайна выдуманае гумарыстычнае апавяданне з нечаканым канцом (А. Булыка. Слоўнік іншамоўных слоў. Мінск: «Нар. асвета». 1993).*

**— Але ж анекдот можна лічыць прызнаннем папулярнасці. Колькі расказвалі пра Васіля Іванавіча, Шцірліца і г. д. — гэты гумар не стаў зневажальным. Хутчэй наадварот! Тая ж «антырэклама»! І зараз некаторыя «незалежныя» газеты друкуюць анекдоты, якія пачынаюцца фразай: «Сустрэліся Клінтан, Ельцын і Лукашэнка»... Вы ведаеце, дарэчы, гэты анекдот?**

— Не.

**— Нічога ганебнага: сабраў Бог трох прэзідэнтаў і паведаміў, што праз 10 дзён будзе канец свету, трэба аб'явіць пра гэта суграмадзянам. Клінтан выступіў па тэлебачанні: «У мяне ёсць дзве навіны — добрая і дрэнная. Добрая — што Бог усё-такі ёсць, а дрэнная — што хутка будзе канец свету». Ельцын: «У мяне дзве дрэнныя навіны: Бог ёсць, і праз 10 дзён — канец свету». І Лукашэнка: «У мяне дзве добрыя навіны: мяне прызнаў сам Гасподзь Бог, і я буду кіраваць да канца свету». Якая ж знявага?!**

— Я люблю добрыя анекдоты, люблю пасмяяцца. Але што да «асобасных» анекдотаў... Зразумейце, у нас такі складаны час — крытыцызм у сродках масавай інфармацыі і ў грамадстве перасягнуў усе межы. Гэта і псіхалагічныя назіранні, і сацыялагічныя даследаванні.

**— Напэўна, усё ідзе ад несалодкага жыцця?**

— Гэта аб'ектыўная рэальнасць... Але з'яўляецца шмат анекдотаў крыўдных. Псіхалагічнае адмаўленне аднаго часу і жаданне атрымаць нешта прыемнае ў будучыні ўжо дасягнула піку. Мы якраз на той вяршыні, калі будзем паварочваць да чагосьці лепшага... А наконт крытыцызму — узгадайце Маякоўскага: «Не надо слишком большого ума, чтобы все отрицать»... Нашы незалежныя, як яны лічаць, газеты ... У іх змест анекдатычны, што недапушчальна. У журналістаў, якія робяць падобныя выданні, няма будучыні — ні творчай, ні чалавечай.

**— Ці не палохаеце вы?**

— Не-не!.. Чалавек, які піша «на знішчэнне», не адбудзецца як асоба: у яго няма маральнай падставы стаць асобай, а тым больш — журналістам.

**— Алег Георгіевіч, прабачце, але ці не азначаюць вашы словы, што наогул крытыкаваць Прэзідэнта нельга, забараняецца?**

— Ён жа сам гаворыць: можна і патрэбна! І ўвогуле, што абмяркоўваць, можна ці нельга, — гэта аб'ектыўная існасць не толькі ў творчасці, але і ў жыцці.

**— Здаецца, лепш, калі мы самі будзем добразычліва крытыкаваць свайго кіраўніка, чым хтосьці на міжнародным узроўні — як, напрыклад, гэта зрабіў Назарбаеў у праграме НТБ... Гавару шчыра — мне, як грамадзянцы Беларусі, было крыўдна...**

— Крытыка — гэта глыбокі аналіз з'явы. А што гэта за крытыка, калі яе мэта — абразіць чалавека.

**— Вам цяжка працаваць памочнікам Прэзідэнта?**

— Гэта вельмі складаная і адказная праца.

**— Вы застаяцеся дэканам факультэта журналістыкі?**

— Не.

**— А хто зараз дэкан?**

— Пакуль што няма.

**— Чаму ж адзіны ў краіне факультэт журналістыкі так доўга застаецца без «галавы»? Цяжка выбраць, бо шмат жадаючых? Ці, наадварот, няма жадаючых, бо незайздросная зарплата на такой пасадзе?**

— Работа дэкана факультэта журналістыкі даволі спецыфічная, і неабходны чалавек, які вельмі тонка разумее сучасныя патрабаванні да падрыхтоўкі спецыялістаў. Ідзе пошук такога навукоўца.

**— Як вы сталі журналістам?**

— Як гаворыцца, журналістамі не нараджаюцца...

**— А дарэчы, адкуль вы будзеце?**

— З Асіповіцкага раёна, з вёскі Лабковіца, з сям'і простых калгаснікаў. Журналістам я стаў з кніг, з маміных казак. І дагэтуль не толькі памятаю, а бачу, адчуваю тыя казкі... Пісаць пачаў рана — спачатку вершы, роздумы, эсэ.

**— Зараз вершы ўжо не пішаце?**

— Пішу. І настолькі сур'ёзныя... Цяпер у мяне вершы атрымліваюцца лепшыя, чым у юнацтве.

**— Гэта не тое што нечаканасць, — адкрыццё! Калі ласка пачытайце што-небудзь.**

*— Ах Лабковіца, сяліба Лабковіца,*
*Беларусі роднай ваколіца.*
*Там зорка мая запалілася,*
*Каб матуляю вёска снілася.*
*О, Лабковіца, вёска Лабковіца,*
*Радзімы маёй залатая ваколіца.*

Друкавацца я пачаў з 19 гадоў, калі па камсамольскай пуцёўцы працаваў на поўначы ў г. Кандалакшы. Пазней закончыў школу юнкораў пры «Знамени юности», атрымаў дыплом. Прага думкі была неўтаймаванай. Пасля арміі паступіў на журфак.

**— Ведаю, што ў вас двое дарослых сыноў, яны не працягнулі традыцыю, абмінулі журфак?**

— У дзяцей накірунак павінен быць свой — ад душы, ад выпадковасці, ад жадання. Не трэба стрымліваць іх талент, каб крылы ў іх былі шырокія і магутныя... Малодшы сын вучыцца на юрыдычным факультэце, старэйшы — на гістарычным, на міжнародных адносінах.

**— Ён аднакурснік сына Прэзідэнта?**

— Не.

**— А хто з вашых сыноў працуе ў тэлепраграме «Усё нармальна, мама»?**

— Гэта проста цёзка па прозвішчу! Маіх сыноў завуць Ілья і Юра, а там Кірыл Слука.

**— Вас больш ведаюць як навукоўца. Як атрымалася, што вы зусім не паспрабавалі сябе ў практычнай журналістыцы?**

— У мяне была мэта стаць навукоўцам — патрабавала душа. Я добра вучыўся, і якраз месца было ў аспірантуры — у той час такая рэдкасць. Гэта цяпер у аспірантуру не загнаць. Я ўдзячны свайму факультэту. У адзін момант любога маладога чалавека магу так заахвоціць факультэтам журналістыкі, што ён абавязкова захоча паступіць!

**— Вы не баіцеся страціць работу?**

— Я ўжо нічога не страчу: напрацаваў даволі змястоўна ў сваёй біяграфіі. У выніку непрадказальнага павароту падзей магу прадоўжыць навуковую, педагагічную працу: я застаўся на палове стаўкі прафесарам, на грамадскіх пачатках — загадчыкам кафедры гісторыі беларускай журналістыкі і літаратуры.

**— У газеце «Народная воля» падрабязна пералічвалася, членам якіх партый быў Слука: КПСС, партыі народнай згоды, Славянскага Сабора «Белая Русь», ну і зараз — патрыятычны рух...**

— У Славянскім Саборы не быў. Калі перайшоў на працу ў Адміністрацыю Прэзідэнта, спыніў дзейнасць у патрыятычным руху. Зараз — беспартыйны.

**— Як вы ставіцеся да таго, што апошнім часам слова «патрыятызм» стала ледзь не ганебным?**

— Гэта вельмі хутка пройдзе. Патрыятызм — вера чалавека ў тое, што заўтрашні дзень будзе лепшым, чым сённяшні. Але, дадам, — толькі моцная вера. Вера часта закалыхвае і супакойвае чалавека, але патрыятызм — не пасіўнае чаканне лепшага будучага, гэта рух. Такі час прыйшоў: бязвер'е, ліхалецце канчаюцца.

**— А ваша вера — якая яна? Напрыклад, вы верыце ў Бога?**

— Зразумела, я атэіст.

**— Зразумела?.. Рэдкі чалавек зараз скажа пра сябе, што ён атэіст.**

— Як чалавек навукі, цудоўна разумею, што такое вера ў Бога, што такое вера ўвогуле. Мая вера і вера большай паловы чалавецтва — шырэйшая, чым вера ў Бога. Яна прасціраецца далей — і ў самаго чалавека, і ў космас быцця, у прасторы і часе. Я веру ў Чалавека!

**— Алег Георгіевіч, у вас няма настальгіі па мінуламу?**

— Ёсць. Але цяпер слова «настальгія» ўжываецца з нейкім адмоўным адценнем. А слова гэта нясе дадатны зарад. Настальгія ў мяне — гэта толькі асэнсаванне, добры ўспамін чагосьці вельмі яркага, прыгожага, што было раней, — аднак не для таго, каб акунуцца ў мінулае, а каб узрушыць сваю думку, прыйсці ў такі эмацыянальны стан, каб можна было, напрыклад, верш напісаць. Каб душу амаладзіць.

**— Раней ва ўсіх была ўпэўненасць у заўтрашнім дні, кожны мог дазволіць сабе кудысьці з'ездзіць адпачыць, без праблем купіць мэблю і г. д. А сёння многім не хапае нават на кавалак хлеба...**

— Тут цяжка гаварыць пра настальгію, а лепш сказаць канкрэтна аб тым, што адышло. Згодзен: можна шкадаваць. Але гэта больш ідзе ад унутранага стану чалавека, а калі перайсці да разумовага аналізу сучаснасці, то пра настальгію ўжо гаварыць нельга. Што было — тое прайшло.

**— Два балючыя пытанні інтэлігенцыі ўсіх часоў: што рабіць і хто вінаваты? Хто, на вашу думку, вінаваты ў тым, што сёння адбываецца?**

— Вінаватых шукаць цяжка, але яны, вядома, ёсць.

**— Гісторыя адкажа? Ці пакуль што рана задаваць гэта пытанне?**

— Не, не рана — ужо праяўляецца. Цяпер, можна лічыць, ідзе перыяд накаплення такога матэрыялу, каб канкрэтна ўсё сказаць. Барыс Алейнік гадоў пяць назад напісаў сваю аповесць «Князь цемры» — там ён дзесьці на падсвядомым узроўні паспрабаваў адказаць, хто вінаваты. Ёсць вінаватыя. І мы ўсе ў пэўным сэнсе таксама вінаватыя, бо адпусцілі на волю лёсу сваю гісторыю і сучаснасць. Еўропа і ЗША зрабілі карэкціроўкі на нашы пазітыўныя сацыялістычныя прынцыпы развіцця эканомікі, культуры і г. д. А мы, калі вычарпалі свае рэсурсы, не звярнулі ўвагі, што яны на нашым вопыце пайшлі далей. А чаму б і нам не пераняць у іх лепшае?!

**— Ленін у артыкуле «Крах ІІ Інтэрнацыянала» вызначыў прыметы рэвалюцыйнай сітуацыі: «нізы» не хочуць , «вярхі» не могуць жыць па-старому; абвастрэнне «нужды и бедствий» працоўных і г. д. Вам не здаецца, што наша жыццё ўвогуле падпадае пад ленінскае вызначэнне рэвалюцыйнай сітуацыі? І ў сувязі з гэтым — ці ёсць гарантыя, што дзе-небудзь у 2000 годзе не здарыцца рэвалюцыя?**

— Гэта настолькі шматпланавае пытанне, што трэба адказваць коратка. Першае. Падабенства на рэвалюцыйную сітуацыю — не сёння, а крыху раней, — у розных памерах і ў розных краінах СНД было і, магчыма, захоўваецца: бачна, як развіваюцца падзеі ад Літвы да Сярэдняй Азіі. І яшчэ адна небяспека — вельмі хутка ідзе маёмаснае расслаенне людзей. Ва ўсе эпохі галоўнай нагодай сацыяльнай напружанасці было парушэнне закона сацыяльнай справядлівасці: сонца ўзыходзіць для ўсіх!.. Гэты закон сутыкаецца з вялікай супярэчнасцю, калі ёсць маёмаснае размежаванне. Вось чаму Прэзідэнт Беларусі, Кабінет Міністраў і Вярхоўны Савет выступаюць супраць рэзкага ўзбагачэння адной (малой) часткі насельніцтва і збяднення другой. Гэта ў дадатак да таго, што вы гаварылі пра рэвалюцыйную сітуацыю... Але! Чалавецтва на рэвалюцыях, войнах многаму навучылася. Рэвалюцыі не будзе, а вось эвалюцыя ідзе вельмі хутка. Калі план сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай рэспублікі на год будзе выкананы, як мяркуецца (гэта пытанне якраз абмяркоўваецца ў Вярхоўным Савеце, Кабінеце Міністраў, у Адміністрацыі Прэзідэнта), эвалюцыя будзе такая значная, што людзі адчуюць, куды мы ідзём, — да грамадства сацыяльнай справядлівасці.

**— Бюджэт на 1996 год яшчэ не прыняты, але лічбы з праекта палохаюць: на ўтрыманне органаў дзяржулады і кіравання — больш як 1 трыльён рублёў, органаў унутраных спраў — амаль 2 трыльёны, выдаткі на абарону — больш за 2 трыльёны. А на фінансаванне сацыяльна-культурных установаў і мерапрыемстваў па сацыяльнай абароне — усяго 1 трыльён, як і на развіццё навукі... Разумею, што пытанне не да вас, і ўсё ж...**

— Хай яно пакуль застаецца рытарычным...

**— Алег Георгіевіч, мы з вамі размаўляем па-беларуску, але ж родная мова апошнім часам гучыць рэдка па радыё, тэлебачанні, у двухмоўных газетах значная перавага аддаецца матэрыялам «рускім». Ці не страцім мы сваю мову?**

— Ніколі! У 1906 годзе ў Беларусі адбылася цікавая з'ява — Янка Купала пачаў выдаваць газету «Наша ніва» на беларускай мове. Гэта быў узлёт беларускай мовы, з таго часу, нягледзячы на цяжкасці, яна развіваецца даволі моцна і змястоўна. І зараз раённыя газеты выходзяць па-беларуску, мову вывучаюць і ў школе, і ў ВНУ. У нашай сітуацыі спяшацца не трэба. Гады чатыры назад, калі пачалося прымусовае ўкараненне беларусізацыі, нарабілі больш дрэннага, чым добрага. Такія працэсы трэба рэгуляваць душой і сэрцам, а не салдацкай выpraўкай. Беларуская мова, як мова еўрапейская, будзе развівацца ў нашай суверэннай дзяржаве.

**— Чаму Прэзідэнт так рэдка гаворыць па-беларуску?**

— На мой погляд, галоўнае — што ён ведае родную мову.

**— Вы курыруеце пытанні культуры, навукі, адукацыі. У грамадстве шмат спрэчак пра магчымую рэформу школьнай адукацыі — а як вы ставіцеся да гэтага праекта?**

— Вельмі асцярожна. Гэту праблему я добра ведаю з усіх бакоў. Мая жонка працуе ў школе. Наша грамадства не павінна памыліцца, таму паспешлівасці не будзе.

**— Які асцярожны адказ!**

— Магу канкрэтызаваць. Я супраць падаўжэння тэрміну навучання ў школе да 12 гадоў, я за структурную і вучэбна-метадычную перабудову навучання. Неабходна перагледзець праграмы — чаму ў школе перагрузкі, чаму субота — не фізкультурна-аздараўленчы дзень?.. Трэба ўзяць усё лепшае і з савецкай школы, і з заходняй. Усе прапановы па рэфарміраванню адукацыі трэба ўзважыць, абмеркаваць.

**— І на заканчэнне размовы — кароткі бліц. Ваша любімая страва?**

— Боршч.

**— Што вы ўмееце гатаваць?**

— Усё.

**— Якія хатнія справы не цураецеся рабіць?**

— Мыць посуд.

**— Любімае свята?**

— Дзень нараджэння жонкі, яна ўсё падрыхтуе, і мы святкуем.

**— Любімы пісьменнік?**

— Пушкін, Лермантаў, Джэк Лондан, Маякоўскі.

**— Любімы верш, які вы маглі б прачытаць на памяць?**

— Што-небудзь з Ясеніна.

**— Песня?**

— Раманс «Гори, гори, моя звезда» і песня 20-х гадоў «Говорил мне отец». Там прыпеў: «Лучше слова «товарищ» ничего не нашел я на этой земле».

**— Самая нязбыўная мара?**

— Падарожжа па 100 гарадах Беларусі — я напісаў бы тады цікавую кніжку «Планета Беларусь».

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

## РЫНАК Б'Е ПА ЖАНЧЫНАХ

***Які працэнт беспрацоўных у нас зараз складаюць жанчыны?***

**Аксана УЛАШЧЫК**, г. Гомель.

Ва ўсім свеце ў гэтым плане складваецца прыблізна аднолькавая сітуацыя: слабы пол пераважае ў ліку беспрацоўных. У нашай краіне, напрыклад, па звестках Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі, 80 працэнтаў беспрацоўных — жанчыны і, адпаведна, 20 — мужчыны.

З гэтых 80 працэнтаў 14 — выпускніцы школ, ПТВ, тэхнікумаў і вышэйшых навучальных устаноў; 30 — рабочыя гандлю, прамысловасці, грамадскага харчавання, 28 працэнтаў — інжынерна-тэхнічныя работнікі; і каля 25 працэнтаў — служачыя вытворчай і невытворчай сфер. Трэба яшчэ адзначыць, што амаль 80 працэнтаў беспрацоўных жанчын маюць вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю. Зараз пераважнай большасці з іх прыходзіцца перавучвацца і набываць прафесіі, якія не патрабуюць высокай эрудыцыі.

Рэспубліканская служба занятасці за апошнія гады значна павялічыла эфектыўнасць сваёй работы: калі, напрыклад, у 1992 праз гэтую службу ўладкоўвалася на працу 18 працэнтаў з тых, хто звяртаўся, то летась — амаль 33 працэнты.

## ДЛЯ АФАРМЛЕННЯ ЗАВЯШЧАННЯ ПАТРЭБЕН ТОЛЬКІ ПАШПАРТ

***Я інвалід II групы, не магу хадзіць. Дваццаць гадоў мяне даглядае адна сям'я. Вельмі хачу аддзячыць гэтым людзям, бо не ведаю, як абышлася б без іх дапамогі. Мне хацелася б сваю прыватызаваную кватэру перадаць у спадчыну старэйшаму сыну гэтай сям'і. Падкажыце, калі ласка, якія дакументы патрэбны, каб напісаць завяшчанне.***

**І. Р. ДАРАФЕЕВА,** Мінск.

Да афармалення завяшчання (распараджэння на выпадак смерці) неабходна з пашпартам прыйсці да натарыуса. Ніякіх дадаковых дакументаў не патрэбна. Вы павінны ведаць пашпартныя даныя чалавека, на імя якога афармляеце завяшчанне. За паслугу збіраецца дзяржпошліна ў памеры 30 тысяч рублёў. Вы маеце права запрасіць натарыуса і дамоў. Толькі тады сума дзяржпошліны павялічыцца ўдвая (60 тысяч) і аплата візіту натарыуса складзе 15 тысяч рублёў.

## ПЫТАННІ АБ ІЛЬГОТАХ ПАКУЛЬ ЗАСТАЮЦЦА АДКРЫТЫМІ

***Настаўнікі-пенсіянеры просяць рэдакцыю паважанай газеты «Звязда» адказаць на два пытанні. Ці будуць аднаўлены льготы педагогам сельскай мясцовасці на падставе пастановы Канстытуцыйнага суда? Як павінны аплачваць праезд пенсіянеры ў прыгарадным і гарадскім транспарце?***

**АНДРУСЕВІЧ В. А., БАЯРЧЫК З. С.,** Гродзенскі раён.

Як вядома, пастановай ад 26 снежня 1995 г. Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прызнаў незаконным Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 г. «Аб упарадкаванні некаторых ільгот...» Аднак 29 снежня 1995 г. Прэзідэнт Рэспублікі даведў да органаў выканаўчай улады распараджэнне, у якім абавязаў да ўнясення змяненняў у адпаведныя заканадаўчыя акты забяспечыць выкананне нормаў указаў Прэзідэнта. Такім чынам, на сённяшні дзень працуюць указы Прэзідэнта. Адпаведна, дзеянне льгот перапынена, пенсіянеры аплачваюць палову кошту праезду ў гарадскім і прыгарадным транспарце. Калі будуць унесены змяненні ў заканадаўчыя акты, сёння ніхто адказаць не можа. Гэта — поле дзейнасці Вярхоўнага Савета, ён павінен разгледзець гэтае пытанне.

## ЛЬГОТНАЯ АПЛАТА ГАЗУ — ДЛЯ АСОБНЫХ КАТЭГОРЫЙ ГРАМАДЗЯН

***Я знаходзіўся ў лагеры «Азарычы», маю пасведчанне і льготы. Да бягучага года я плаціў палову кошту за балон газу, а ў гэтым годзе з мяне бяруць суму поўнасцю. У горадзе растлумачылі, што з выхадам на пенсію буду зноў плаціць палову сумы. Ці правільна гэта? Тое ж самае з аплатай электраэнергіі.***

**Я. Д. ШПОК,** Акцябрскі раён

Як паведамілі ў канцэрне «Белтопгаз», у сувязі з указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб адмене льгот некаторым катэгорыям грамадзян, льготная аплата (50 працэнтаў) газавых балонаў газу засталося толькі для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і інвалідаў першай і другой груп.

## З КУРЭННЕМ БУДУЦЬ ЗМАГАЦЦА І НА БЕЛАРУСІ

***Даведаўся з газет, што сёлета ў маі Расія ў рамках праграмы нейкай замежнай арганізацыі па ахове здароўя будзе праводзіць антытытунёвую кампанію. Ці адбудзецца што-небудзь падобнае на Беларусі?***

**А. САЛАНІНКА,** Віцебская вобл.

Сапраўды, Сусветная арганізацыя аховы здароўя, Міжнародная праграма CINDI, Мінздраўмедпром Расіі і Цэнтр прафілактычнай медыцыны з 2 па 30 мая 1996 года правядуць антытытунёвую міжнародную кампанію «Не курыць і стаць пераможцам-96». Людзі, якія адмовяцца ад курэння на адзін месяц, змогуць атрымаць суперпрыз — 5 тысяч долараў ЗША, а таксама турыстычныя пуцёўкі на паездкі ў Еўропу і шэраг іншых прызоў. Кантраляваецца адмова ад гэтай дрэннай звычкі будзе біяхімічным метадам. Правядзенне падобнай акцыі не з'яўляецца новаўвядзеннем — такія кампаніі праводзіліся і раней. Напрыклад, у 1994 годзе ў кампаніі «Не курыць і стаць пераможцам» узялі ўдзел 62 тысячы чалавек з 12 краін Еўропы. Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Міністэрстве аховы здароўя РБ, падобная акцыя будзе праводзіцца вясной гэтага года і ў нашай рэспубліцы. Падрыхтоўка да яе ўжо пачалася.

## ХТО СТВАРЫЎ РУСКА-ЯПОНСКІ, ЯПОНСКА-РУСКІ СЛОЎНІКІ?

***Пачула неяк, што стваральнік руска-японскага і японска-рускага слоўнікаў — беларус. Ці так гэта?***

**І. ДУБАТОЎКА,** г. Мінск

Сапраўды, Іосіф Антонавіч Гашкевіч (1815—1875) нарадзіўся ў Беларусі.

Ён быў першым дыпламатычным прадстаўніком Расіі ў Японіі, і, дарэчы, першым з замежных дыпламатаў, які працягнуў руку сяброўства японцам. Іосіф Гашкевіч быў, акрамя таго, выдатным моваведам, даследчыкам Японіі і Кітая, вучоным-філолагам, стваральнікам руска-японскага, японска-рускага слоўнікаў, аўтарам кнігі «Пра карані японскай мовы», надрукаванай у 1899 годзе у Вільні.

Дарэчы, у Беларусі створаны Міжнародны цэнтр імя І. Гашкевіча, аб ім выдадзена кніга «Адысей з Беларусі» Васіля Гузанава, якую Іван Саламевіч пераклаў на беларускую мову.

## ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ. КАЛІ ЯНО ПАЧНЕЦЦА?

***Паважаная «Звязда». Неаднойчы ўжо сустракала на старонках газет спрэчку аб тым, калі ж усё-такі наступіць новае тысячагоддзе: 1 студзеня 2000 года ці 2001 года. Напэўна, пара ўжо паставіць кропку...***

**Марыя ПАПЛАЎСКАЯ,** г. Ліда.

Сапраўды, тут меркаванні многіх людзей разыходзяцца. Але ўсё гэта з-за недасведчанасці. Большасць сцвярджае, што новае тысячагоддзе павінна пачаць свой адлік з 1 студзеня 2000 года. «Давайце паразважаем,— кажуць яны. — Спачатку ідзе «0», а пасля ўжо «1». Просты прыклад — узрост чалавека. Пры нараджэнні дзіцяці пачынаецца першы год яго жыцця, а калі яму спаўняецца адзін год, то гаворка ўжо ідзе аб другім годзе, бо першы прайшоў, і г.д. Гэтак жа і з каляндарнымі гадамі: споўніцца дзве тысячы гадоў — пачнецца дзве тысячы першы год». З такімі сцвярджэннямі не згодны, напрыклад, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута астраноміі Расійскай акадэміі навук Мікалай Ярпылёў.

Прыклад з узростам чалавека, сапраўды, удалы, аднак высновы тут зроблены памылковыя. Калі чалавеку спаўняецца, скажам, 10 гадоў, мы так і кажам: дзесяць гадоў, пайшоў адзінаццаты. Калі ж чалавек жыве больш за сто гадоў, то яму спачатку трэба пражыць поўныя 100 гадоў, а не 99, каб можна было сказаць: яму пайшло другое стагоддзе.

Тое ж і з летавылічэннем. За яго пункт адліку ўзята нараджэнне Ісуса Хрыста. Прайшло сто гадоў — мінула стагоддзе; тысяча гадоў — тысячагоддзе. Калі будзе пражыты апошні дзень другога тысячагоддзя (31 снежня 2000 года), пачнецца трэцяе тысячагодзе і, адпаведна, дваццаць першае стагоддзе.

Так што з нуля ў дадзеным выпадку адлік часу весці нельга, бо нулявога года не было. Казалі так: «Першы год з дня нараджэння Ісуса Хрыста». Завяршыўся год — сталі казаць: «Другі год...» Пагэтаму павінна прайсці дзве тысячы гадоў, каб можна было гаварыць аб пачатку «дзве тысячы першага года ад нараджэння Хрыстова».

**Выпуск «Пытальніка» падрыхтавалі: Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ, Жанна КАТЛЯРОВА, Сяргей ПРОТАС, Анатоль СЛАНЕЎСКІ, Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# НА СЛУЖБЕ ЧУЖОЙ РАДЗІМЕ



**Салдаты фартуны, прафесіяналы, наёмнікі, легіянеры... Ва ўсіх гэтых семантычна розных слоў ёсць адзін агульны сэнс: яны называюць асаблівых людзей, людзей, чыёй прафесіяй стала вайна, а працай — забойства.**

Гэтых дзяцей бога Марса ведаюць ва ўсім свеце. Знайсці іх нескладана — дастакова адшукаць на палітычнай карце свету бліжэйшую «гарачую кропку». І ўжо таму, што эпіцэнтраў вырашэння палітычных канфліктаў рукамі вайскоўцаў хапае на кожным кантыненце, з упэўненасцю можна сцвярджаць, што гэтым хлопцам беспрацоўе не пагражае. Сапраўды, дастаткова толькі «прабегчыся» па апошніх крывавых падзеях (В'етнам, Афганістан, Балканы, Чачня, а зараз і Таджыкістан), каб заўважыць у парахавым дыме ад выбухаў рэактыўных снарадаў невыразныя цені вайскоўцаў у поўнай амуніцыі з АК эмамі ці М-16 у руках. Стаўленне да людзей, якія ператварылі забойства ў майстэрства і самі ж дасягнулі ў ім дасканаласці, неадназначнае: адны лічаць іх ашалелымі садыстамі, якія дзеля грошай гатовы літаральна на ўсё, іншыя, што сутыкаліся з бескарыслівай адданасцю салдат фартуны той ці іншай справе, лічаць іх ледзь не героямі.

Аб прафесіянальных салдатах зняты кінастужкі, напісаны кнігі, складзены песні. Дзякуючы менавіта іх вядомасці і славутасці пераблыталіся рэальнасць і выдумка, жыццё і легенда. Вядома, гэта аказалася на руку тым «профі», якія не хочуць сябе афішыраваць і хаваюць свой сапраўдны твар за шырмай нявызначанасці. Хто гэтыя людзі? Дзе і ў якіх войсках іх рыхтуюць? Чым яны займаюцца пасля звальнення? Адназначна адказаць на гэтыя пытанні не ўяўляецца магчымым. У арміі кожнай краіны ёсць свае элітарныя (тут: найбольш падрыхтаваныя, забяспечаныя) вайсковыя часці.

У Францыі гэта Legion Etranger (Французскі іншаземны легіён). Агульная колькасць яго вайскоўцаў на сённяшні дзень складае 8800 чалавек. Цікава, што амаль палова асабовага саставу легіёна — выхадцы з былога Савецкага Саюза. Існуе легіён яшчэ з 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Так ужо склалася, што Францыя на працягу ўсёй сваёй гісторыі часта і даволі пасляхова карысталася паслугамі іншаземных вайскоўцаў-наймітаў. І слова «найміт» не выклікае ў французаў ніякіх негатыўных эмоцый. Што датычыцца Французскага іншаземнага легіёна, то ён сярод французаў карыстаецца асаблівай павагай. Толькі лепшыя французскія афіцэры праходзяць службу ў палках легіёна, што лічыцца за вялікі гонар. З 90-х гадоў ужо нашага стагоддзя ў Французскі іншаземны легіён пацягнуліся савецкія афіцэры і салдаты, якія вярнуліся з Афганістана, Усходняй Германіі, Чэхаславакіі...

Легіён складаецца з бранятанкавых, інжынерных, дэсантных і агульнавайсковых часцей. Вайсковыя часці легіёна дзейнічаюць у многіх краінах свету. Найбольшая іх колькасць размешчана на ўзбярэжжах Афрыкі, Паўднёвай Амерыкі, Азіі. Каб трапіць у легіён, трэба звярнуцца ў адзін з яго шматлікіх вярбовачных пунктаў, што знаходзяцца на тэрыторыі Францыі. Дарэчы, па сведчаннях былых легіянераў, на некаторых з пунктаў ёсць заклікальныя плакаты нават на рускай мове. Згодна з «Умовамі набору ў Французскі іншаземны легіён», з заявай аб прыёме ў вярбовачны пункт легіёна можа звярнуцца мужчына ва ўзросце ад 17 да 40 гадоў, пажадана халасцяк (для непаўналетніх абавязковы дазвол ад бацькоў). З дакументаў пры сабе дастаткова мець толькі пашпарт. Адбор кандыдатаў праводзіцца па наступных крытэрыях:

— медыцынскі (адбіраюць абсалютна здаровых людзей);

— спартыўны (адбор на падставе прабегу дыстанцыі 2700 метраў за 12 хвілін і інш.);

— псіхатэхнічны (адбор на падставе агульнаадукацыйнага ўзроўню). Тэст праводзіцца на роднай мове кандыдата.

Умовы набору, у адрозненне ад умоў выпрабавальнага тэрміну, не вельмі жорсткія. Пасля прыёму ўсіх будучых легіянераў чакае абавязковая спецыяльная школа Кастэльнадары, што знаходзіцца за паўсотні кіламетраў на паўднёвы ўсход ад Тулузы. Менавіта тут і праводзіцца шасцімесячны экзамен, які канчаткова вырашыць лёс кандыдатаў. Адбой у 8 гадзін вечара, пад'ём — у 4 гадзіны раніцы. Астатні час займаюць трэніроўкі, вучэнні, урокі французскай мовы і іншыя заняткі, што складаюць неабходныя элементы ваеннай падрыхтоўкі. Аклад даволі прыстойны, хоць першыя месяцы «на рукі» выдаюць грошы толькі на цыгарэты. Калі кандыдат не вытрымлівае іспыту, яму купляюць білет дадому і выплачваюць астатнія грошы. З тымі, хто прайшоў выпрабаванні і выдатна здаў экзамен, падпісваецца першапачатковы кантракт тэрмінам на 5 гадоў, які пры жаданні можна будзе прадоўжыць.

Легіянеры атрымліваюць даволі прыстойнае жалаванне, а крэдытныя карткі легіёна, які мае свой банк, прымаюцца да аплаты ва ўсёй Еўропе. Пры ўмове добрай службы і адпаведнасці пэўным крытэрыям жыцця французскага грамадства, пасля заканчэння тэрміну кантракта існуе магчымасць атрымання французскага грамадзянства. Самі французы пра такіх іншаземных легіянераў кажуць: «Яны французы не па нараджэнню, а па духу». Пасля 15 гадоў службы вайскоўцу выплачваецца пенсія.

Жадаючых хапае, у асноўным выхадцаў з краін Усходняй Еўропы. У 1994 годзе з 8200 кандыдатаў прынялі ў легіён каля 1200 чалавек. У апошні час з'явіліся легіянеры і з некаторых экзатычных краін — карэйцы, японцы, кітайцы. Служаць і «заходнікі» (немцы, італьянцы, шведы). Аднак іх нашмат менш, чым славян. Амаль немагчыма трапіць ў легіён азіятам (афганцам, арабам). Дасканальна вядзецца праверка кандыдатаў на прадмет дачынення да замежных разведслужбаў.

Такую вядомасць і папулярнасць Французскага іншаземнага легіёна даволі лоўка выкарыстоўваюць у сваіх мэтах «камерцыйныя» структуры Польшчы, Літвы, Венгрыі, Беларусі і некаторых іншых краін Усходняй Еўропы, прапануючы за «ўмераную плату» (250—300 долараў ЗША) аблегчыць паступленне ў легіён. Аднак згодна з вышэйназванымі ўмовамі, набор у легіён праводзіцца выключна ў Францыі ў індывідуальным парадку, і ніякае прыватнае агенцтва не можа ў гэтым дапамагчы. Як паведаміў аташэ па пытаннях абароны Пасольства Французскай Рэспублікі ў Беларусі падпалкоўнік Жан Іў Бурыс карэспандэнту «Звязды», пасольства літаральна завалена лістамі ад маладых хлопцаў, якія, даведаўшыся аб перспектывах службы ў вышэйназваным легіёне, былі б не супраць выпрабаваць свае сілы. Яны дасылаюць біяграфічныя звесткі, фотаздымкі, заявы аб прыняцці на службу на імя французскага аташэ. Аднак пасольства набору не праводзіць, а таму няма і сэнсу дасылаць туды заявы і дакументы.

**Сяргей ПРОТАС.**



# ОРДЭР НА КВАТЭРУ — РАСКОША НАШЫХ ДЗЁН

**Памятаеце, некалі з лёгкай іроніяй гаварылі: «Што нам каштуе дом пабудаваць?!» Колькі гадоў таму гэта сапраўды не ўяўляла сабой вялікай праблемы. Грашовых укладаў на «чорны дзень» не меў, бадай, толькі зусім непрадбачлівы чалавек, ды і цэны на кватэры або будаўнічыя матэрыялы былі, па сённяшніх мерках, калі не смешнымі, дык, прынамсі, даступнымі. Зараз жа яны калі і выклікаюць усмешку, дык толькі горкую: астранамічныя лічбы кошту тых жа кватэр у тысячы разоў перавышаюць зарплату сярэднестатыстычнага беларуса. Не менш прыкрая сітуацыя і з будматэрыяламі: набыць усё неабходнае для ўзвядзення дома або рамонту кватэры пад сілу зараз далёка не кожнаму. Таму для пераважнай большасці насельніцтва мара аб уласным жыллі ператварылася ў бясконцую тэму летуценняў. Ды што свая кватэра? І дзяды, і бацькі ў чаканні «светлага будучага» гадамі здымалі куткі ў чужых людзей. Не абмінае гэтая доля і іх нашчадкаў — нашых сучаснікаў. Але справа ў тым, што цана за наём нават вельмі сціплай кватэры або пакоя (г.зн. голых сцен) абыдзецца маладому чалавеку або сям'і ў месячную зарплату. Калі пакласці зубы на паліцу, то тады нічога, можна «жыць». Калі ж без чорнага гумару, праблема жылля і яго будаўніцтва, напэўна, адна з самых сур'ёзных для краіны. Як яна вырашаецца на абсягах Беларусі — аб гэтым і пойдзе наша сённяшняя гаворка.**

## Рыхтуй сані летам, а будматэрыялы — зімой

**Калі ў вас за горадам засталася недабудаваная дача, або вы ўжо сур'ёзна вырашылі з вясны пачаць будаўніцтва дома, тады пазяхаць з газетай на канапе вам зусім не варта. Бо зіма ў апошні раз палохае лютаўскімі маразамі, а там, глядзіш, сакавік, красавік... Не, не будзе добры будаўнік адлежвацца ў такі гарачы час. Самы час запасацца цяпер да вясны будматэрыяламі. Аднак не вы адны такія разумныя.**

Прадаўцы яшчэ толькі ў снежні цэны на большасць вырабаў замарозілі, а да пачатку лютага хуценька напісалі новыя цэннікі. Прычым шыфер і аконнае шкло ў дзяржгандлі па Мінску падаражэлі на трэць, фанера падскочыла на чвэрць, а вось цэмент вырас у цане на цэлых 50 працэнтаў. Не абысціся вам на будоўлі без цэглы сілікатнай, тысяча штук якой каштуе 870 тыс. рублёў, а вось такая ж партыя чырвонай пацягне на цэлых паўтара мільёна.

А вось цэны на дошкі не змяніліся: так і каштуе абразная 40-міліметроўка 1 млн. 80 тыс. руб. за куб. метр. Рулон рубероіду аблегчыць вашу кішэню на 95 тыс., а кілаграм хадавых цвікоў каштуе 10—15 тыс. Навошта мне ваш дзяржгандаль, скажа хітры скупы мужык, я лепш схаджу на «свой» базар — на дзяржаўную будоўлю. А там дастану пару паўлітровак і за свайго зялёнага змея буду прасіць не хрусткі рубель, а грамадскія, г. зн. нічыйныя, дзверы, цвікі і шкло.

Толькі я вам, дарагі чытач, рабіць так зусім не раю. Па-першае, гэта проста-такі непрыгожа, а па-другое, канфлікт з Крымінальным кодэксам ні да чаго добрага не прывядзе.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## Для будаўніцтва ёсць усё, акрамя грошай

**Для гамяльчан, якія вырашылі заняцца будаўніцтвам, праблем з набыццём неабходных матэрыялаў не існуе: у абласным цэнтры знаходзіцца адно з буйнейшых у краіне прадпрыемстваў будаўнічых матэрыялаў — арэнднае прадпрыемства «Гомельбудматэрыялы». Адна з яго асноўных задач — работа менавіта на прыватных забудоўшчыкаў жылля. У фірменным магазіне, што нядаўна адкрыўся на прадпрыемстве, можна набыць практычна ўсе сучасныя матэрыялы для будаўніцтва катэджа, невялікага дачнага доміка, памяшкання для гаспадарчых патрэб.**

Бадай, асноўнае пытанне, якое паўстане перад пакупнікамі, гэта таўшчыня іх кашалька. Бо, набываючы, скажам, сілікатную цэглу, будучаму ўладальніку нерухомасці давядзецца выкласці 1 млн. 500 тысяч рублёў за кожную тысячу штук, за кожны кубічны метр блокаў з ячэістага бетону — па 462 тысячы рублёў. Пагонны метр дошкі для падлогі «пацягне» на 6.200 рублёў, вагонкі — на 5.800. Трубка руберойду будзе каштаваць 129.600 рублёў, адзін ліст шыферу — 38.800. Тут жа ці ў іншых месцах горада можна набыць і іншыя неабходныя матэрыялы. Толькі цэны...

Ці не таму за 15 рабочых дзён у фірменным магазіне «Гомельбудматэрыялаў» агульны аб'ём продажу склаў толькі 175 млн. рублёў, што не так ужо і шмат для гэтага гіганта.

Не лепшая карціна складваецца і з будаўніцтвам жылля дзяржавай. За мінулы год за кошт усіх крыніц фінансавання ў Гомельскай вобласці было пабудавана 3910 кватэр агульнай плошчай 253 тысячы квадратных метраў, ці 47 працэнтаў да ўзроўню 1994 года. За кошт жыллёва-будаўнічых кааператываў уведзена жылля ў 5 разоў менш, чым у тым жа 1994 годзе. Насельніцтвам у мінулым годзе з дапамогай крэдытаў былі пабудаваны толькі 433 кватэры па ўсёй вобласці.

**Леанід УЛАДЗІМІРАЎ.**

## Жыллё: чачэрцы ў разгубленасці

**Можна без перабольшання гаварыць, што будаўнічая галіна ў Чачэрску ў заняпадзе. Пасля аварыі на ЧАЭС людзей пачалі адсяляць у незабруджаную мясцовасць, аднак на месца выехаўшых неўзабаве прыехалі сем'і перасяленцаў з «гарачых кропак» былога Савецкага Саюза. У выніку чарга на атрыманне жылля ў Чачэрску сёння прыкладна такая ж, як і да аварыі на ЧАЭС.**

Многія сем'і па-ранейшаму вымушаны здымаць прыватныя кватэры. Пры гэтым сярэднямесячная плата за іх складае пад 500 тысяч рублёў. Гэта нямала, асабліва калі ўлічыць, што заробак на мясцовых прадпрыемствах і ў арганізацыях не выдаецца па некалькі месяцаў.

У сувязі з гэтым раённая «вертыкаль» у адчаі шукае выйсце. У прыватнасці, вырашана пераабсталяваць пад жылыя дамы два інтэрнаты. Цяжкасць, аднак, у тым, што для будаўніцтва хранічна не хапае грошай. Не дапамагае і тая акалічнасць, што раён «радыяцыйны» — з вобласці, ды і з рэспублікі на гэты кошт нязначнае паслабленне.

Тым жа часам патрабуе ўвагі і вытворчае будаўніцтва. Ужо 5 гадоў у райцэнтры не могуць пабудаваць лазню з пральняй. Патрэбен новы водазабор — людзі вымушаны ўжываць ваду са шматлікім перавышэннем у ёй дапушчальных нормаў жалеза. Тэрмінова патрабуецца рэканструяваць раённую паліклініку. На жаль, на ўсіх гэтых і іншых аб'ектах зацішша з-за той жа адсутнасці грошай.

**Алег ВАСІЛЬЕЎ.**

## Жадаеш уласны дом — рыхтуй 100 мільёнаў

**Крызісныя з'явы ў эканоміцы, адсутнасць рэформаў закранулі ўсю гаспадарку Беларусі, але асабліва балюча ўдарылі па будаўніцтву.**

Вось і ў Паставах з пачатку года фактычна не прыступала да работы буйнейшая будаўнічая арганізацыя ў раёне — МПМК-62, якая пасля далучэння аднаго з калгасаў цяпер мае назву аграбудфірмы «Світанак». Вельмі ўзрадаваліся тут, калі атрымалі заказ на будаўніцтва аднакватэрнага жылога дома, які разам з гаспадарчымі пабудовамі будзе каштаваць каля 100 млн. рублёў.

Падобныя заказы ў будаўнікоў рэдкія. Спецыялісты фірмы прыгадваюць, што летась яны здалі для насельніцтва толькі адзін хлеў з цэглы коштам 50 млн. рублёў. Наогул жа ўвод жылля ў параўнанні з 1994 годам скараціўся на 59 працэнтаў.

На жыллёвым будаўніцтве было асвоена толькі 2,2 млрд. рублёў з усіх 25,1 млрд. рублёў, выдзеленых на будаўніча-мантажныя работы. На Пастаўшчыне летась прадпрыемствамі і арганізацыяі ўсіх формаў уласнасці было здадзена 45 кватэр агульнай плошчай 4,3 тыс. кв. метраў, з якіх амаль 40 працэнтаў прыпадае на вёску. А ў чарзе на атрыманне жылля ў Пастаўскім райвыканкоме стаяць 800 чалавек, з якіх 226 маюць права на льготы.

Самому ж будавацца сёння безумоўна няпроста. На гэта патрабуюцца вялікія грошы. Мясцовы магазін «Будматэрыялы» прапануе сёння пакупнікам сілікатныя блокі коштам 577 тыс. за куб. метр, шыфер — па 33,4 тыс. руб. за 1 ліст, шкло аконнае — 23800 за кв. м, плітку абліцовачную — па 84.900 руб. за кв. м. Цэглы ў продажы пакуль няма, але яе абяцалі прывезці па цане 1 млн. за 1000 штук.

Жадаючыя будавацца стараюцца не мець спраў з дзяржаўнымі фірмамі, а імкнуцца наняць прыватных муляраў: кубаметр кладкі ў якіх каштуе ад 5 да 12 долараў. Жадаючых зарабіць грошы на будоўлі ў горадзе хапае, таму і назіраецца розніца ў цэнах.

Добра, што ў абласным друку перыядычна змяшчаюцца цэны на асноўныя будматэрыялы, якія вырабляюць прадпрыемствы вобласці. Дарэчы, танней будзе набыць неабходнае прама на такім прадпрыемстве і прывезці яго на ўласным транспарце.

Паступова ў Паставах нараджаецца і рынак жылля. Цэны на кватэры ў асноўным стабілізаваліся, і зараз аднапакаёвая кватэра каштуе каля трох тысяч долараў. Двухпакаёвую можна набыць за 6-7 тысяч долараў. І нарэшце, нават шыкоўны двухпавярховы асабняк абыдзецца пакупніку ў 10—12 тыс. долараў.

Ацяпляць іх сёлета няпроста, і многія ўладальнікі такога жылля не спяшаюцца засяляцца ў свае дамы.

**Уладзімір ШЫК.**

## З «хрушчоўкі» — небаскроб?..

**Гомельскі гарвыканком прыняў рашэнне аб рэканструкцыі больш як 100 дамоў у абласным цэнтры.**

Першым будынкам, на якім прапрацоўвалася новая тэхналогія рамонтна-будаўнічых работ, стаў чатырохпавярховы дом, пабудаваны ў пачатку 60-х гадоў. Ён ператворыцца ў пяціпавярховы, і такім чынам ў ім прыбавіцца 8 кватэр.

Больш прывабным стане і фасад дома. Ужо ў гэтым годзе такім спосабам вырашана рэканструяваць больш як 20 жылых дамоў у Гомелі. Гэтак разам з рамонтам у горадзе спрабуюць вырашыць і спрадвечную жыллёвую праблему.

**Леанід УЛАДЗІМІРАЎ.**

## З чаго і як складаюцца цэны на будматэрыялы

**Уважлівы будаўнік абавязкова адзначыць той факт, што цэны на адны і тыя ж будматэрыялы ў розных кутках нашай краіны вельмі адрозныя.**

Як яны фарміруюцца і як рэгулююцца, тлумачыць намеснік начальніка ўпраўлення эканамічнага абгрунтавання цэн і падаткаў па будаўніцтву Людміла Чэпікава.

Цэны на сваю прадукцыю ўстанаўлівае прадпрыемства-вытворца. Аднак фірмы, якія вырабляюць будматэрыялы, абавязаны кіравацца Палажэннем міністэрства эканомікі ад 1 студзеня 1996 г. «Аб парадку фарміравання цэн і тарыфаў у будаўніцтве». На падставе гэтага Палажэння Мінбудархітэктуры можа стрымліваць неабгрунтаванае павелічэнне цэн у любым месцы Рэспублікі Беларусь, але толькі на прадукцыю, якая выпускаецца падведамнымі прадпрыемствамі. Згодна з палажэннем, ажыццяўляць рэгуляванне цэн, тарыфаў на прадукцыю тавараў, паслуг у будаўніцтве маюць права міністэрства, ведамствы, аблвыканкомы і Мінскі гарвыканком у адпаведнасці з прадастаўленымі ім правамі.

Цэны на прадпрыемствах вызначаюцца з улікам планавага сабекошту і ўсіх устаноўленых падаткаў і непадатковых плацяжоў, якасці прадукцыі і кан'юнктуры рынку. Выдаткі на вытворчасць будматэрыялаў у розных абласцях краіны неаднолькавыя. Неаднароднымі з'яўляюцца попыт і прапанаванне на рынку тавараў. Усё гэта ў канчатковым выніку прыводзіць да значных ваганняў цэн на дзяржпрадпрыемствах у асобных рэгіёнах рэспублікі.

Што ж датычыцца камерцыйных фірмаў, а таксама дзяржаўных, якія пастаўляюць будматэрыялы за межы Беларусі, дык у гэтым выпадку ўстанаўленне цэнавых рамак законам не прадугледжана.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# БУДАВАЦЬ — НЕ ПА КІШЭНІ. МОЖНА ТОЛЬКІ ЛАТАЦЬ...

**З А МІНУЛЫ ГОД на Віцебшчыне адсвяткавалі ўдвая менш наваселляў, чым у папярэднім годзе. На капітальныя ўкладанні ні прыватнікам, ні дзяржаве не хапае грошай. Прадпрыемствам даводзіцца аддаваць будаўнікам за ўзвядзенне кожнага квадратнага метра жылля па 210—230 долараў, і дырэктары не могуць абяцаць сваім работнікам дах над галавой раней, чым праз 5—10 гадоў.**

Купляць жыллё за свае грошы? Але кошт аднапакаёвай кватэры ў абласным горадзе даходзіць да 6 тысяч долараў, двухпакаёвай — 8500 долараў, а трохпакаёвай — перавышае 15 тысяч долараў.

Такія грошы маюць у кішэні далёка не ўсе, пераважнай большасці даводзіцца здымаць пакойчык у прыватнікаў. А там расцэнкі наступныя: аднапакаёвая кватэра каштуе 20—30 долараў у месяц. Некаторым шанцуе: паўдома (2 пакоі) у прыватным сектары можна зняць усяго за 20 долараў.

А калі паспрабаваць пабудавацца самому? Візіт у віцебскі магазін № 10 «Будаўнічыя матэрыялы» не прынясе гараджанам задавальнення: цэгла сілікатная каштуе 1870 руб. за 1 шт., керамічны камень пустацелы — 2235 за 1 шт., цэгла звычайная каштуе 1355 за 1 шт., дошка неабразная — 480—744 тыс. за кубаметр, абразная — 845 тыс. за кубаметр. Цэмент (маркі 500) каштуе 819 тыс. руб. за тону, ці па 41 тыс. рублёў за пяцідзесяцікілаграмовы мяшок, рулон рубероіда — 100 тыс. руб., шасціхвалевы шыфер — 46,5 тыс. руб. за ліст, ДСП — 34,6 тыс. руб. за 1 кв. м, ДВП — 41,3 тыс. руб. за 1 ліст (2,75x1,70 м), фанера (4 мм таўшчыня, 1,5x1,5 м) — 56,5 тыс. руб.

Сантэхніка, а дакладней — унітаз другога гатунку, каштуе 195,8 тыс. руб. А вось за камфорт давядзецца заплаціць больш: дэкаратыўныя высакаякасныя унітазы ацэньваюцца ў 516,9 тыс. руб плюс такі ж дэкаратыўны бачок за 339,6 тыс. руб. Чыгунная ванна (1,5 метра) каштуе тут 1 млн. 300 тыс. рублёў. Між іншым, у другім віцебскім магазіне — «Тавары для дома» можна ўбачыць такую ж ванну, але толькі ўжо за 2 млн. 190 тыс. рублёў. 200 тыс. руб. складае разбежка ў кошце чыгуннага камплекта для печаў (636 тыс. руб. і 826 тыс. руб.).

З апошніх прыкладаў бачна, што той, хто будуецца, калі пабегае па магазінах, зможа зэканоміць на будматэрыялах не адну сотню тысяч.

Дарэчы, у аб'яднанні «Кераміка», адкуль паступае цэгла ў «Будаўнічыя матэрыялы», гараджане могуць набыць тую ж звычайную цэглу на 200 рублёў за 1 штуку, а керамічны камень — на 165 руб. танней.

Па прычыне таннага продажу «Керамікай» будматэрыялаў летам перакупшчыкі актыўна збывалі іх у Расію. Даводзілася патрабаваць даведкі аб тым, што пакупнік сапраўды будуецца, а не перапрадае цэглу. Сёння ж прадастаўлена магчымасць купляць колькі жадаеш, прычым без усякіх паперак. Але такіх «багацеяў» знаходзіцца няшмат.

У Віцебску ў мінулым годзе было пабудавана толькі 68 прыватных дамоў. Усяго 1174 сям'і адсвяткавалі наваселле, што ў два разы менш у параўнанні з 1994 годам.

У студзені гэтага года наогул ніводны дом не трапіў у справаздачу аб уводзе жылля. На тое, каб латаць дамы, грошы яшчэ знаходзяцца, а вось на будаўніцтва іх ужо не хапае.

**Аляксандр ТУЛБУСАЎ.**

# УБАЧЫЦЬ ЛОНДАН — І МАРЫЦЬ УСЁ ЖЫЦЦЁ

**Лондан... Для большасці людзей пры гэтым слове абавязкова спрацоўвае стэрэатып «туманнага Альбіёна». І хаця яго не аднойчы абвяргалі, аднак, каб на самай справе канчаткова пазбавіцца памылковых уяўленняў пра горад на Тэмзе, трэба проста яго наведаць.**

**Падыхаць паветрам вуліц і магазінаў, пастаяць пад славутым Біг-Бэнам, убачыць сусветна вядомую плошчу Пікадыллі, зайсці ў сапраўдны англійскі паб на пінту піва.**

**Тады Лондан увойдзе ў ваша жыццё назаўсёды. Нават калі вам больш ніколі не выпадзе яшчэ хаця б раз яго наведаць, успамінаў і ўражанняў усё роўна хопіць да апошніх дзён жыцця. Калі ж Яго Вялікасць лёс падаруе такую магчымасць (о, мары!), як сцвярджаюць дасведчаныя людзі, вас сустрэне... зусім незнаёмы горад. Лондан нельга ўбачыць увесь, зразумець цалкам за адзін-два разы. Колькі б ні траплялі ў яго абдымкі — столькі ж вас будуць сустракаць новыя ўражанні, сустрэчы, адкрыцці. Нязменнай кожны раз будзе толькі адно — любоў да яго, горада на Тэмзе...**

## АРХІТЭКТУРА — МУЗЫКА ДАЎНІНЫ І СУЧАСНАСЦЬ

Кажуць, што брытанскі газон не таму такі прыгожы, што на ім пасеяна добрая трава, а таму, што яго даглядалі на працягу стагоддзяў з пакалення ў пакаленне. У дачыненні да горада ў цэлым гэтыя словы тычацца ў першую чаргу архітэктуры, такой жа даўняй, як сама гісторыя Англіі. Нават у, здавалася б, неспалучальным суседстве з дасягненнямі цывілізацыі XX стагоддзя, менавіта яны, каменныя доўгажыхары, чые сцены былі сведкамі мноства падзей даўніны, ствараюць своеасаблівую атмасферу, без якой Лондан, напэўна, не быў бы сапраўдным Лонданам. Біг-Бэн, Адміралцейства, Букінгемскі палац, Вестмінстэрскае абатства, Сабор св. Паўла, Таўэр...

Наогул жа, я вылучыў бы тры ўмоўныя катэгорыі, па якіх можна было б падзяліць лонданскую архітэктуру. Па-першае, гэта спадчына гісторыі, да якой, зазначу, адносяцца вельмі і вельмі беражліва. Бачыў будынкі, у якіх не адно стагоддзе за плячыма і якія па гэтай прычыне прагнілі амаль наскрозь. Як вы думаеце, што робяць англічане? Захоўваючы ўцалелыя вонкавыя сцены, будуюць унутры сучасны банк, офіс і г. д.! Знішчаць рэшткі старога будынка катэгарычна забаронена дзяржавай. І яны стаяць, чатыры сцяны, якія падтрымліваюцца спецыяльнымі канструкцыямі, да поўнага завяршэння будаўніцтва ўнутры, а потым рэстаўрыруюцца. Дарэчы, у мэтах захавання старых будынкаў у Лондане вядуцца работы па іх выратаванню ад наступстваў колішняга смога. Як вядома, раней кватэры ацяплялі вугалем, які палілі ў камінах. Сажа з цягам часу пафарбавала сцены ў кафейна-карычневы колер. Зараз іх ачышчаюць спецыяльнымі бясшкоднымі біялагічнымі рэчывамі, вяртаючы каменю яго натуральны белы колер.

Па-другое, гэта архітэктура першых пасляваенных гадоў. Зараз амаль паўсюдна такія будынкі стаяць у будаўнічых рыштаваннях, таму што падлягаюць знішчэнню. Англічане тлумачаць, што ў цяжкія для краіны часы трэба было думаць не аб экалогіі, а найперш забяспечыць людзей жыллём, таму шматпавярховыя будынкі ўзводзіліся з бетону і іншых матэрыялаў, якія зараз пачалі разбурацца, несучы небяспеку. Не менш важкім доказам на карысць іх знішчэння жыхары Лондана лічаць і тое, што гэтыя монстры (на сучасны погляд) псуюць знешняе аблічча горада. Дарэчы, руйнуюць не толькі жылыя дамы. У Бірменгеме, другім па велічыні брытанскім горадзе, дзе таксама давялося пабываць, па просьбе (?!) яго жыхароў збіраюцца ліквідаваць, на мой погляд, не такі ўжо і стары чыгуначны вакзал, каб пабудаваць на яго месцы больш сучасны.

Па-трэцяе, гэта суперсучасныя гмахі, якіх у Лондане таксама хапае. Зрэшты, і ў іх бывае такі ж трагічны лёс, як і ў «монстраў» пасляваенных гадоў: па той ці іншай прычыне разбурэння чакае не адзін такі «акварыум» — будынак з металічных канструкцый і шкла. Дарэчы, як і раней, кошт зямлі ў Лондане вельмі вялікі. З гэтай нагоды там не знойдзеш пустых тэрыторый, якія ледзь не на кожным кроку сустракаюцца ў Мінску. Усе старыя будынкі ў брытанскай сталіцы маюць абавязковы падземны паверх, а сучасныя могуць наогул цалкам хавацца ніжэй узроўню тратуара, маючы на паверхні толькі ўваход. З-за дарагоўлі зямлі ўсё больш англійскіх фірмаў пераязджаюць на ўскраіны горада, а цэнтр Лондана паступова займаюць японскія кампаніі, якія гатовы плаціць за арэнду астранамічныя сумы.

## НА ТРАДЫЦЫЯХ ТРЫМАЕЦЦА ЖЫЦЦЁ

Як ужо падкрэсліваў, Англія — краіна традыцый, якія тут вельмі паважаюць і захоўваюць. Напрыклад, тэлефонныя кабіны ў цэнтры Лондана маюць традыцыйна старую форму і пафарбаваны (як і двухпавярховыя аўтобусы) ў чырвоны колер (амаль кожны горад у Англіі мае свой «фірмовы» колер — у Бірмінгеме, скажам, ён сіні). Спробы мясцовых уладаў замяніць кабіны сучаснымі выклікалі ледзь не абурэнне жыхароў, якія, не многа і не мала, угледзелі ў гэтым замах на гісторыю. Усё пакінулі як ёсць, хаця дзе-нідзе гэтыя прыметы цывілізацыі ўсё ж з'явіліся.

Асаблівая тэма — лонданскія таксі. Здаецца, іх знешні выгляд не змяніўся з часу першага з'яўлення на вуліцах. Зразумела, гэта не так. Толькі адна кампанія ў Англіі займаецца вытворчасцю гэтых аўтамабіляў, якія, зноў жа па традыцыі, вырабляюцца ў выглядзе іх «дзеда». Зазначу, гэта нешта своеасаблівае. Вадзіцель за ахоўнай сценкай, адкідныя крэслы для пасажыраў адно насупраць другога. Словам, ні з чым не параўнальныя ўражанні, асабліва калі ўлічыць левабаковы рух.

Англічане захоўваюць не толькі матэрыяльныя каштоўнасці, але і шануюць памяць аб усіх сваіх славутых дзеячах. Ніводны помнік у Лондане не быў скінуты з п'едэстала, як гэта раз-пораз здаралася ў нашай гісторыі. На ўсіх дамах, дзе калісьці нарадзіліся, жылі або працавалі вядомыя палітыкі, пісьменнікі і г. д., прымацаваны сціплыя блакітныя памятныя шыльдачкі ў форме кругоў. Бачыў вулкі, якія літаральна стракацелі імі. Пашана да сваіх продкаў знаходзіць пацвярджэнне не толькі ў даніне павагі памёршым. Кожную пятніцу, пасля завяршэння працоўнага тыдня, і старыя, і маладыя збіраюцца ў пабах. Паб — гэта месца, дзе не толькі п'юць піва, гэта хутчэй міні-клубы, куды можна прыйсці з сябрамі, каханай, або нават усёй сям'ёй. У адным з іх давялося назіраць вельмі цікавую карціну. За адным столікам сядзелі і пацягвалі піва, верагодна, унучка з дзедам. Зусім маладая дзяўчынка гадоў чатырнаццаці і сівы ветэран у незвычайным доўгім чырвоным мундзіры накшталт шыняля з бліскучымі медалямі на грудзях.

Ведаеце, пабываць у Англіі і не зайсці ў паб — усё роўна што ў Іспаніі не завітаць на карыду, або ў Парыжы не ўбачыць Эйфелеву вежу. Тут англічане адкрываюць для цябе яшчэ адну рысачку свайго характару, рысачку ўсёй нацыі. Вельмі працавітыя ўвесь тыдзень, яны пятнічным вечарам у шчыльнай кампаніі з такім жа імпэтам аддаюцца вяселлю. Гоман, музыка, смех, піва, цыгарэтны дым (аб гэтай цікавай акалічнасці крыху пазней) дапаўняе ўбранне саміх пабаў, стылізаваных пад даўніну. Гэта драўляныя грубыя лаўкі і сталы, бочкі з-пад піва, нейкі металічны рыштунак на сценах, нават павуцінне! Словам, абстаноўка вельмі «дэмакратычная». І пры ўсім гэтым людзі не напіваюцца. Здавалася, што моцныя напоі англічане зусім не ўжываюць. Добрае віно, джын з тонікам, марціні, светлае (лагер) або цёмнае (гінес) піва — вось традыцыйны асартымент наведвальнікаў пабаў. Ці не таму, нават упершыню трапіўшы сюды, адчуваеш сябе даволі спакойна і ўпэўнена?!



## АНГЛІЧАНЕ — ЯКІЯ ЯНЫ?

Гаворачы пра англічан, чамусьці адразу прыгадваюцца словы вядомага сатырыка аб тым, што ў савецкіх людзей на твары распрацаваны не тыя мышцы. Так, жыхары Лондана ўвесь час жывуць з усмешкай на твары. Вельмі адкрытыя і добразычлівыя, заўсёды гатовыя прыйсці на дапамогу. У адзенні вельмі дэмакратычныя, хаця ў большасці выбіраюць дзелавы стыль: у мужчын — цёмны касцюм, кашуля ў дробную палоску, нестракаты гальштук; у жанчын — такога ж колеру або крыху святлейшы касцюм, абавязкова чорныя калготы.

Працоўную кар'еру малады англічанін або англічанка звычайна пачынаюць недзе з 30 гадоў — да гэтага часу ідзе навучанне. Як правіла, сем'і яны ствараюць ужо нечага дасягнуўшы на прафесіянальнай ніве. Сабраўшы крыху грошай і набыўшы неабходную мэблю, тэхніку і г. д., звычайна купляюць адна-, двух- ці трохпавярховы дом. (Шматпавярховыя дамы накшталт тых, якія стаяць у Мінску на яго праспектах, у большасці сваёй пустуюць. Абсталяваныя кватэры з балконамі, падземнымі гаражамі аддаюць пад жыллё дарма або за ўвогуле сімвалічную плату беспрацоўным, але і тыя не заўсёды згаджаюцца там жыць.)

Няхай не прагучыць нетактоўна, але працаваць англічане ўмеюць. Падчас візіту ў Лондан давялося пабываць у офісах буйнейшых брытанскіх газет, вядучых інфармацыйных агенцтваў свету, рэдакцыях рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі і г. д. — і паўсюдна ішла работа. Уявіце сабе памяшканне плошчай з футбольны стадыён ці крыху менш, у якім адначасова працуюць сотні людзей: друкуюць, тэлефануюць, спрачаюцца. Але ўсё гэта так, каб не перашкодзіць суседу. Нягледзячы на вялікую колькасць працуючых, у памяшканні стаіць параўнальная цішыня. Чаму? Бо кожны заняты сваёй справай, якую выконвае на працягу ўсяго працоўнага дня. Дарэчы, славутых нашых перакураў не існуе наогул па той простай прычыне, што амаль ва ўсіх адміністрацыйных будынках, офісах, рэстаранах забаронена курыць. Парушальнікаў-рызыкантаў чакаюць вялікія штрафы. Што зробіш, англічане вельмі дбаюць аб сваім здароўі і здароўі акружаючых людзей. І выключэнняў тут няма. Праводзячы нашу дэлегацыю пасля сустрэчы, адзін з рэдактараў буйнейшай брытанскай газеты выйшаў за намі на вуліцу і, дастаўшы пачак цыгарэт, ці пажартаваў, ці сказаў усур'ёз: маўляў, нават яму, каб пакурыць, даводзіцца выходзіць на свежае паветра. Паколькі з усіх беларускіх журналістаў толькі адзін я курыў, усе наступствы гэтай забароны давялося зведаць на ўласнай скуры. Адвесці душу можна было толькі ў нумары гатэля, які, дарэчы, быў спецыяльна для курцоў, або зрэдку на вуліцы паміж рознымі сустрэчамі. Не лішнім будзе сказаць, што змагаюцца з тытунём не толькі забаронамі. У крамах пачак прыстойных цыгарэт на беларускія грошы каштуе недзе каля 50 тысяч.

Аберагаючы пакаленне маладое, англічане вельмі шануюць і старасць. У аэрапортах або вакзалах спецыяльныя невялічкія машыны падвозяць састарэлых людзей, куды ім трэба: да касы, па багаж, на пляцоўку таксі. Вельмі беражліва абыходзяцца і з тымі, хто стаў інвалідам. Многія жылыя дамы, адміністрацыйныя будынкі абсталяваны спецыяльнымі пад'ездамі для інвалідных калясак. Англічане лічаць, што калі чалавек па той ці іншай прычыне страціў здольнасць рухацца самастойна, гэта зусім не азначае, што жыццё для яго скончылася. Вельмі красамоўны і адначасова балючы (зразумееце, чаму) прыклад тут хацелася б прывесці зноў жа пра састарэлых людзей. Кожную раніцу і вечар мы хадзілі ў рэстаран гатэля. Ведаеце, што больш за ўсё там уразіла? Не абслугоўванне, не стравы, а — састарэлыя. Як высветлілася, яны былі турыстамі, вандравалі сямейнымі парамі, або нават цэлымі кампаніямі. Адпрацаваўшы ўсё жыццё на сваю краіну, на пенсіі яны пачалі жыць для сябе: адпачываць, падарожнічаць. А між іншым, наш «Рубенс-гатэль» побач з Букінгемскім палацам быў далёка не самым танным... І гледзячы на гэтых маленькіх і сівых ад пражытых гадоў джэнтльменаў і людзей, якія бяруць цяпер ад жыцця ўсё для сябе, я кожны раз лавіў сябе на думцы, што нашыя бацькі сабе такога ніколі не змогуць дазволіць...

## ЛОНДАН—МЕККА ДЛЯ ТУРЫСТАЎ

Штогод сталіцу Брытаніі наведвае безліч турыстаў з усяго свету. У горадзе, дзе на кожным кроку — гісторыя, цяжка не знайсці сабе прытулак, дзе можна задаволіць сваю цікаўнасць. Змена ганаровай варты ля каралеўскага палаца, фігура бога Эраса на плошчы Пікадыллі, дзе традыцыйна фатаграфуюцца ўсе закаханыя (раней у Эраса былі лук са стралой, але яе столькі разоў выцягвалі на памяць турысты, што ўрэшце вядомы «снайпер» кахання стаіць зараз абяззброены), Трафальгарская плошча з яе галубамі, якія садзяцца на рукі, галаву, плечы!.. А Нацыянальная галерэя, дзе можна ўбачыць палотны Рубенса, Рафаэля, Ван Гога і іншых славутасцей?! У яе залах можна блукаць не адзін дзень. Пры жаданні вы зможаце наведаць нават пасяджэнне брытанскага парламента! У гэтым выпадку даведаецеся, для чаго ў зале на падлозе побач з трыбунамі суразмоўцаў, якія ў дыскусіі адстойваюць свае меркаванні, праведзены дзве паралельныя чырвоныя лініі і чаму паміж імі менавіта такая адлегласць. Аказваецца, што гэтая традыцыя пайшла яшчэ з тых часоў, калі вышэйшыя дзяржаўныя чыноўнікі насілі пры сабе шпагі. Узброеныя апаненты станавіліся адзін насупраць аднаго, і таму іх выхапленыя ў выпадку чаго клінкі павінны былі ледзь-ледзь дакранацца да апанента. Калі нехта падыходзіў хаця б на крок бліжэй у час сваркі, якія раз-пораз тады ўзнікалі (як, зрэшты, і сёння), адзін з парламентарыяў мог лёгка забіць свайго праціўніка. Не знаходзіце, што гэты рытуал нядрэнна было б перанесці ў сучасны беларускі Вярхоўны Савет?!

Вы, напэўна, чулі і пра старэйшае ў свеце лонданскае метро. Аддаючы даніну павагі яго гадам, можаце спусціцца і туды. Але, звыкшыся з роднай мінскай падземкай, вы будзеце непазбежна расчараваны, таму што лонданскі яе аналаг не мае той раскошы ўбрання. Тым больш, што жанчынам наўрад ці ўступяць у вагоне месца — тут гэта робяць або для вельмі састарэлых, або для цяжарных. Тым больш што аднаму ў ім вельмі лёгка заблудзіцца, так што самастойна лёс лепш не выпрабоўваць.

Зразумела, можна падарожнічаць на аўтобусе ці аўтамабілі. Бадай, адзіны непрыемны момант пры гэтым — верагоднасць трапіць у затор. Але калі ваша «аўто» абсталявана камп'ютэрам — праблемы не будзе. Спецыяльныя відэакамеры на вуліцах і верталёты над горадам праз дыспетчарскі пункт дапамогуць вашаму вадзіцелю выбраць шлях без перашкод.

Аб'ехаўшы славутыя мясціны, раю зайсці ў некаторыя магазіны. І не столькі для таго, каб набыць нешта (гэта ўжо залежыць ад уласнага жадання і наяўнасці грошай), колькі для таго, каб паглядзець. Лондан славіцца на ўвесь свет самымі дарагімі магазінамі, звычайнымі пакупнікамі ў якіх з'яўляюцца шэйхі-мільянеры. Нават калі не трапіце ўнутр, паглядзіце хаця б на вітрыны — яны вартыя таго. У вокнах магазіна вы ўбачыце сапраўднае тэатральнае дзейства, якое для вас выконваюць механічныя манекены. Гатоў паспрачацца, што раскошу іх убрання вы будзеце памятаць усё жыццё. Каб не склалася ўражанне, што ў Лондане жывуць і ходзяць у магазіны адны толькі багацеі, паспрабуйце наведаць гандлёвыя кропкі «MAKRO». Сярэднестатыстычны англічанін набывае неабходныя тавары менавіта там. Трэба зазначыць, што гэтыя магазіны (якіх у краіне ўсяго некалькі) займаюцца мелкааптовым гандлем. Набываючы адразу скрынку піва або кавы, напрыклад, пакупнік мае пэўную скідку. Для англійскіх сем'яў наведванне такіх магазінаў ператвараецца ў сапраўднае дзейства. З сабой бяруць нават маленькіх дзяцей, якіх садзяць у велізарныя цялежкі і возяць іх па магазіне разам з рэчамі цэлы дзень. Словам, вы адкрыеце для сябе яшчэ адну старонку жыцця жыхароў далёкага Лондана.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

**На здымку:**
Таўэрскі мост на Тэмзе.

# СТРАСЦІ ВАКОЛ ТАЙВАНЯ

**Сусветную грамадскасць апошнім часам усё больш хвалююць падзеі, звязаныя з загадкавым і далёкім Тайванем, насельніцтва якога складае 13 мільёнаў чалавек**

**Зусім нядаўна амерыканскія сродкі масавай інфармацыі напужалі насельніцтва спасылкамі на выказванні высокапастаўленых кітайскіх дзеячаў аб гатоўнасці Пекіна пайсці на самыя рашучыя меры, аж да развязвання буйнамаштабных ваенных дзеянняў, у тым ліку супраць ЗША.**

Нагнятаючы страсці, «Нью-Йорк таймс» паспяшалася растлумачыць публіцы, што кітайскае кіраўніцтва ў вельмі недвусэнсавых выразах папярэдзіла адміністрацыю Клінтана: Кітай завяршыў складанне планаў абмежаванага нападу на Тайвань, які можа адбыцца, калі тайваньскі прэзідэнт Лі Дэхуэй пераможа на маючых адбыцца 23 сакавіка першых дэмакратычных прэзідэнцкіх выбарах. Пекін асцерагаецца, што першы ўсенародна выбраны прэзідэнт Тайваня запатрабуе незалежнага ад КНР статусу. Адсюль і пагрозы, што адказам на любыя адкрытыя спробы Тайбея набыць незалежнасць непазбежна пацягнуць за сабой ваенны напад з боку Пекіна. А калі ЗША паспрабуюць умяшацца і перашкодзіць такому сілавому ўздзеянню, то Пекін будзе гатовы ахвяраваць «мільёнамі людзей» і «цэлымі гарадамі» дзеля захавання цэласнасці сваёй краіны.

Тайваньскі ўрад афіцыйна заяўляе аб сваёй прыхільнасці да справы аб'яднання з мацерыковым Кітаем. Агаворваючы, аднак, што найперш Кітай павінен стаць дэмакратычнай краінай, дасягнуць не меншага працвітання, чым Тайвань, і адмовіцца ад палітыкі сілавога ціску: у апошнія месяцы Пекін дэманстратыўна перакінуў шэраг вайсковых часцей на ўзбярэжжа супраць Тайваня. Да таго ж час ад часу наладжвае выпрабавальныя пускі ракет паблізу яго.

На гэтым фоне не застаўся не заўважаным назіральнікамі як бы выпадковы праход аднаго з амерыканскіх эсмінцаў праз праліў паміж мацерыковым і астраўным Кітаем. Старонкі газет і часопісаў застракацелі каментарыямі аб дэманстрацыі сілы з боку Вашынгтона, як бы апошні ні адмаўляў гэта на афіцыйным узроўні, спасылаючыся на чыстае супадзенне гэтых падзей.

Зрэшты, «Лос-Анжэлес непакоіць Вашынгтон больш, чым Тайвань», — не без з'едлівасці заспакойваюць свядомасць грамадскасці аглядальнікі, таму асабліва хвалявацца аб тым, што ЗША можа прыняць нейкія рашучыя меры, не варта. Яно і на самай справе, у час уласнай перадвыбарнай кампаніі, якая пачала набіраць абароты, прэзідэнту Клінтану зусім не мае сэнсу ствараць дадатковыя праблемы з Пекінам. Якая ўжо там вайна і прынясенне ў ахвяру Лос-Анжэлеса!

Між тым, сітуацыя ўскладняецца той акалічнасцю, што многія члены Кангрэса ЗША відавочна сімпатызуюць Тайваню і гатовы прадэманстрыраваць сваю падтрымку яго прэзідэнту, спасылаючыся на прыняты ў 1979 годзе Закон аб адносінах з Тайванем, у якім бачаць гарантыі амерыканскай абароны Тайбея ў выпадку нападу на яго.

Як бы там ні было, у амерыканскіх сродках масавай інфармацыі прамільгнулі паведамленні аб намеры ЗША запатрабаваць склікання Савета Бяспекі ААН у сувязі з апошнімі заявамі Пекіна і аб магчымай пастаўцы зброі Тайваню ў дадатак да тых 150 амерыканскіх самалётаў F-16, якія ўжо былі закуплены Тайванем у апошні час.

Аналагічная пастаўка Тайваню самалётаў «Міраж-2000» Францыяй, якая мела месца ў папярэднія гады, прывяла, як вядома, да сур'ёзнага ўскладнення адносінаў паміж Пекінам і Парыжам, пераадолець якія ўдалося толькі ў студзені 1994 года, калі Францыя згадзілася падпісаць з КНР сумеснае камюніке.

У адпаведнасці з ім Парыж абавязаўся ўстрымлівацца ў далейшым ад продажу ўзбраенняў Тайбею. Праўда, потым французскі ўрад крыху мадыфікаваў сваю пазіцыю, заявіўшы, што не можа забараніць французскім кампаніям, якія спецыялізуюцца на ўзбраеннях, весці перагаворы з Тайванем, хоць вядома, што ўсе пастаўкі зброі падлягаюць зацвярджэнню афіцыйным Парыжам.

Вашынгтон жа не ўтойвае, што паміж ім і Тайбеем існуюць неафіцыйныя адносіны. У адсутнасць дыпламатычных кантактаў паміж дзвюма краінамі яны падтрымліваюцца праз паўафіцыйнае прадстаўніцтва, ролю якога выконвае Амерыканскі інстытут на Тайвані. Узначальваць яго тайбейскі офіс літаральна гэтымі днямі быў назначаны спецыяліст па Кітаю Дэрыл Джонсан, высокапастаўлены супрацоўнік амерыканскай дыпламатычнай службы. З 1991 па 1994 гг. ён быў першым паслом ЗША ў Літве. У яго паслужным спісе — работа ў Пасольстве ЗША ў КНР, генеральным консульстве ЗША ў Ганконгу, аддзеле Кітая ў саставе дзярждэпартамента ЗША, пасольствах ЗША ў Варшаве і Маскве. Адначасова назначаны і новы кіраўнік вашынгтонскага офіса Амерыканскага інстытута на Тайвані — ім стаў Джэйм Вудз-малодшы.

Пекін даўно падазрае Вашынгтон у тайнай падтрымцы разгорнутай у апошні час Тайванем кампаніii за міжнароднае прызнанне ў якасці суверэннай дзяржавы. Гэтыя апасенні асабліва ўзмацніліся пасля таго, як увосень мінулага года шэрагам астраўных краін, якія падтрымліваюць адносіны з Тайванем, была зроблена спроба вынесці пытанне аб прызнанні яго суверэнітэту на разгляд Генеральнай Асамблеі ААН і дабіцца прыняцця Тайваня ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый як незалежнай ад КНР дзяржавы. Падтрымка гэтай прапановы каштавала шэрагу дзяржаў, якія не ўстаялі перад спакусай тайваньскіх інвестыцый, фактычнага разрыву адносінаў з Пекінам.

Саперніцтва паміж мацерыковым і астраўным Кітаем не слабее з часоў завяршэння грамадзянскай вайны ў 1949 г. Увесь гэты час Пекін разглядае Тайвань не інакш як правінцыю, якая аддзялілася.

Між тым, імкнучыся замацаваць свой самастойны статус астраўны Тайвань робіць ўсе магчымыя захады, каб дабіцца расшырэння свайго міжнароднага прызнання, шчодра абяцаючы фінансавую падтрымку і раздаючы іншыя абяцанні тым, хто гатовы падтрымаць гэтыя намеры. Тайбей таксама актыўна дабіваецца ўваходжання ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, што, аднак, малаверагодна, прынамсі, пакуль не атрымае адабрэння сваёй уласнай заяўкі на ўступленне ў гэту арганізацыю мацерыковы Кітай.

Каб процістаяць націску з боку Пекіна, Тайбей мае намер праводзіць палітыку актыўнага прыцягнення замежных фірмаў і кампаній, ствараючы для іх усё новыя льготы і перавагі.

Намячаецца скарачэнне імпартных тарыфаў і лібералізацыя тарыфаў на сельскагаспадарчую прадукцыю, адкрыццё шырокага доступу замежнаму капіталу ў сферу паслуг, паступовае пазбаўленне субсідый і ліквідацыя манаполіі на мясцовым рынку Кітайскай нафтавай карпарацыі.

У ваеннай жа галіне Тайбеем запланавана правядзенне ў лютым серыі ваенных вучэнняў і артылерыйскіх стрэльбаў...

Што і гаварыць, згушчаюцца хмары над Усходам. А ён, як вядома, патрабуе да сябе вельмі тонкага падыходу.

**Анатоль БЕРАЗОЎСКІ,**
**уласны карэспандэнт «Звязды».**
**Нью-Йорк.**

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ НА УКРАІНЕ

Нядаўна ў Кіеве з удзелам прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы адбылася нарада па пытаннях паскарэння прыватызацыі. На ёй як галоўнае дасягненне было адзначана тое, што прыватызацыя з асобных гераічных парываў ператварылася ў мэтанакіраваны рух.

Так, за 3,5 года частка дзяржаўнай маёмасці скарацілася з 96 працэнтаў да 62. Акрамя таго, прыватызацыйныя сертыфікаты атрымалі больш як 50 працэнтаў украінскіх грамадзян. Толькі ў 1995 годзе ў працэсе прыватызацыі было задзейнічана 16.265 аб'ектаў, з якіх 4051 аб'ект агульнадзяржаўнай і 12.214 — камунальнай уласнасці. Гэта ўдвая больш, чым было прыватызавана ў 1994 годзе. Акрамя таго, адзначалася паскарэнне гэтых працэсаў — толькі за IV квартал 1995 г. раздзяржаўлена больш прадпрыемстваў, чым за ўвесь 1994 год. Калі тэмпы гэтых пераўтварэнняў захаваюцца, ёсць надзея завяршыць на працягу I паўгоддзя 1996 года малую прыватызацыю і да канца года — сертыфікатную. Па паказчыках лідзіруюць Адэская, Данецкая, Львоўская вобласці і г.Севастопаль. Замыкаюць спіс Чарнігаўская і Херсонская вобласці.

**Пятро РАГОЙША.**

*(Паводле матэрыялаў газеты «Голас Украіны».)*

## ПОЛЬШЧА НА ШЛЯХУ РЭФОРМАЎ

**У той час як мы, беларусы, толькі разважаем, якім чынам рэфарміраваць эканоміку краіны, і цягнем час, спадзеючыся на стабілізацыю, палякі пасля цяжкага пачатку рэформаў ужо выкарыстоўваюць іх плённыя вынікі.**

Тэмпы эканамічнага росту склалі ў мінулым годзе 6,5 працэнта і з'яўляюцца самымі высокімі ў Еўропе. Несумненна, што паспяховае развіццё польскай гаспадаркі будзе працягвацца і далей, таму што рэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі працягвае традыцыі Леха Валенсы на шляху рыначных пераўтварэнняў, прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і пільнага кантролю за выдаткамі ўрада.

Нягледзячы на перавагу посткамуністычных сіл у парламенце, на працягу апошніх двух гадоў у нашых суседзяў стабільна скарачаюцца інфляцыя і бюджэтны дэфіцыт. Нават Лешэк Бальцаровіч, былы міністр фінансаў і распрацоўшчык праграмы «шокавай тэрапіі», пацвярджае, што прынцыпы ягонай палітыкі захаваны. Дзякуючы павышэнню прадукцыйнасці працы на 15 працэнтаў экспарт узрос на 37 працэнтаў і склаў у мінулым годзе 16,6 млрд.долараў. Цяпер экспартам займаюцца звыш 200 тысяч польскіх прадпрыемстваў, у той час як 5 гадоў назад іх было ўсяго 200.

Павялічваюцца і непасрэдныя замежныя інвестыцыі. За перыяд з 1990 па 1994 год у Польшчу паступілі непасрэдныя капіталаўкладанні у памеры 5 млрд.долараў. Аднак толькі за першую палову 1995 года паступілі інвестыцыі яшчэ на 1 млрд.долараў.

**Пятро РАГОЙША.**



*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях і вертыкалях**: 1. Расліна, кветка сямейства капуцынавых. 2. Фаза Месяца. 3. Традыцыйнае жыллё паўночнаамерыканскіх індзейцаў. 4. Акуляры, якія чапляюцца на пераноссе. 5. Тайная дамоўленасць аб сумесных дзеяннях супраць каго-небудзь. 6. Асоба, якая актыўна распаўсюджвае ў масах пэўныя ідэі, думкі. 7. У матэматыцы: дзельнік у дробу. 8. Поспех у спаборніцтве, барацьбе, змаганні. 9. «Рухавік» паруснага судна. 10. Устаноўка для выпрабавання гатовых машын або вузлоў. 11. Падатковая стаўка, якая прыпадае на пэўную адзінку адкладання. 12. Сельскагаспадарчая машына. 13. Більярдная гульня ў тры шары. 14. Масавая відовішчная ўстанова. 15. Папулярны мастацкі фільм кінарэжысёра А. Міта. 16. Склеп, падвал для захоўвання прадуктаў на доўгі час. 17. Пшаніца, жыта, ячмень, іншыя злакавыя культуры. 18. Перыядычны гандаль ў пэўным месцы ці ў пэўны час. 19. Асобны дом з усімі надворнымі пабудовамі і зямельным участкам. 20. Сельскагаспадарчая работа з зерневымі культурамі. 21. Моцнае хваляванне, узбуджаны стан. 22. Цяжкапраходныя, звычайна балоцістыя, трапічныя лясы. 23. Фігурная дужка, якая аб'ядноўвае ў тэксце або ў табліцы некалькі радкоў. 24. Месяц года. 25. Абагульняючая назва кіраўніцтва пэўнай ўстановы, прадпрыемства на чале з яго начальнікам. 26. Дрэва сямейства вербавых з высокім прамым ствалом. 27. Падстаўка, трымальнік для лабараторных прыбораў або посуду. 28. Супрацоўнік сістэмы дзяржаўнага нагляду за друкам і іншымі сродкамі масавай інфармацыі. 29. Марская жывёла, т. зв. селядцовы кіт. 30. Буйны населены пункт. 31. Пустыя разважанні, пабудаваныя на бяздоказнай аснове, аднабаковым тлумачэнні фактаў. 32. Асобны прадмет з ліку аднародных. 33. Малады спартсмен, які не дасягнуў сталага ўзросту. 34. Вучэнне аб маралі, яе развіцці, прынцыпах, нормах і ролі ў грамадстве. 35. Разборка машыны, збудавання на асобныя вузлы, дэталі. 36. Група асоб, аб'яднаных агульнай работай, справай.



**Склаў Валянцін НАЛІМАЎ.**

### АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ 10 ЛЮТАГА

**Па гарызанталях:** 5. «Кватарантка». 9. Пластыр. 12. Атэль. 13. Малпа. 14. Палік. 16. Ткацтва. 18. Радыянт. 20. Шарыкападшыпнік. 23. Тармола. 24. Наталля. 25. Канва. 26. Кафля. 27. Багна. 28. Супесак. 32. Паляводства.

**Па вертыкалях**: 1. Карп. 2. Каса. 3. Кант. 4. Атар. 6. Стэгаграфія. 7. Геліябіялогія. 8. Каста. 10. Сіласаванне. 11. Варта. 14. Падатак. 15. Крушына. 17. Трыко. 19. Допыт. 21. Этыка. 22. Ляжак. 28. Сіла. 29. Піва. 30. Сода. 31. Кіто.

